*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
21
ЧЭРВЕНЯ
1991 г.
№ 25 (3591)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



1941—1991



# ЗАЎТРА БЫЛА ВАЙНА...

Цяжка сказаць, якія душэўныя струны закрануць гэтыя здымкі ў людзей, што нарадзіліся пасля вайны і ведаюць пра яе з кніг і кінафільмаў. Наша ж пакаленне, якое потым трапна назавуць «дзецьмі вайны», яны прымусяць успомніць напаўзабыты ўжо, схаваны за смугой гадоў час, пазначана страшным словам — вайна.



Ліпень 1941 г. Магілёў. Канстанцін СІМАНАЎ і Аляксей СУРКОЎ у рэдакцыі франтавой газеты.

Здаецца, што сёння пра яе ўжо нішто не нагадвае. Але — стой. У сённяшнім нумары публікуецца карэспандэнцыя аднаго з нашых аўтараў аб тысячах не пахаваных дагэтуль астанкаў савецкіх салдат, што раскіданы па лясах Беларусі. Ці ўвайшлі яны ў чарговую афіцыйную лічбу нашых страт у гады вайны — 27 мільёнаў чалавек? Я пішу — «чарговую», бо былі і іншыя афіцыйныя лічбы — 7 мільёнаў, 20 мільёнаў і вось цяпер 27. Многія гісторыкі, даследчыкі лічаць, што і гэта лічба далёкая ад ісціны, ахвяр было намнога больш.

Вечная памяць ім, вечная ўдзячнасць!

Не, не можам мы сёння не думаць пра тое, якая неймаверна высокая цана заплачана за перамогу, пра тое, што мільённыя ахвяры — вынік злачыннай дзейнасці дыктатуры Сталіна, памылкі якога ў дыпламатыі, ваеннай стратэгіі прывялі да таго, што гітлераўскае нашэсце застала краіну знянацку.

Яшчэ раз угледзімся ў гэтыя здымкі — нямецкія танкі, гатовыя да наступлення; чырвонаармейцы ў «сталінскім абутку» — чаравіках з абмоткамі — цягнуць на пазіцыю «саракапятку». Ці ацалеў хто з іх у тыя страшныя першыя дні і месяцы вайны?

Пяцьдзесят гадоў сплыло з таго нядзельнага сонечнага дня 22 чэрвеня 1941 года, калі першыя выбухі абвясцілі пачатак вайны. І чорная гэтая дата — як рубец на сэрцы, які, відаць, у нас ніколі не загоіцца.

**Міхась ЗАМСКІ.**

Іншыя матэрыялы, прысвечаныя 50-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны, чытайце на старонках 4, 12, 16.



# Кола Дзён

На мінулым тыдні ўспышкі на Сонцы (кажуць, самыя моцныя за ўвесь час астранамічных назіранняў за свяцілам) і магнітныя навальніцы азваліся на нашай планеце землятрусамі, вывяржэннямі вулканаў, аварыямі, гібеллю людзей. Што ж, жыццё наша ў многім залежыць ад стыхіі. Аднак прыродныя катаклізмы часам нішто ў параўнанні з катастрофамі ў гісторыі чалавецтва.

Паўвека прайшло з пачатку Вялікай Айчыннай вайны, а жахлівыя вынікі яе ўсё яшчэ адгукаюцца. На Беларусі, якая страціла кожнага чацвёртага — асабліва... Толькі цяпер прыходзіць усведамленне, што перамагчы ворага, аднавіць разбуранае ім — яшчэ не ўсё. Трэба наладзіць нармальнае, мірнае, вартае чалавека жыццё ў рэчышчы еўрапейскай цывілізацыі. Як проста...

**13 ЧЭРВЕНЯ**

**Вярхоўны Савет Беларусі з другога заходу прыняў дзяржаўную праграму стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва ў рэспубліцы.**

**Стала вядома імя першага прэзідэнта Расіі. Б. Ельцын набраў 57,3 працэнта галасоў (усяго галасавала 75 працэнтаў расійскіх выбаршчыкаў). За М. Рыжкова аддалі галасы звыш 16 працэнтаў. На трэцяе месца выйшаў У. Жырыноўскі (амаль 8 працэнтаў галасоў). На апошнім — В. Бакацін (3,4).**

**Мэрамі Масквы і Ленінграда выбраны адпаведна Г. Папоў і А. Сабчак. Большая палова жыхароў горада на Няве выказалася за вяртанне яму назвы Санкт-Пецярбург.**

**На выбарах у народныя дэпутаты РСФСР адзін з лідэраў «ДэмРасіі» Ю. Афанасьеў перамог сакратара ЦК РКП І. Антановіча.**

**14 ЧЭРВЕНЯ**

**ў Вярхоўным Савеце Беларусі створана новая фракцыя — «Камуністы за дэмакратыю».**

**Рэспубліканскі прафсаюз работнікаў аўта- і сельгасмашынабудавання публічна падтрымаў рашэнне калектыву МТЗ спыніць на прадпрыемстве дзейнасць КПБ і іншых палітычных арганізацый.**

**15 ЧЭРВЕНЯ**

**апублікавана пастанова ВС БССР «Аб праекце Саюзнага дагавору», у якой даручаецца падпісаць дагавор ад імя Беларускай ССР Старшыні Вярхоўнага савета рэспублікі М. Дземянцею.**

**16 ЧЭРВЕНЯ**

**з камандзіроўкі ў Гарвард вярнуўся ў Маскву вядомы эканаміст Г. Яўлінскі. Разам з амерыканскімі вучонымі ён працаваў над праектам рэформ, якія могуць адкрыць шлях да інтэграцыі савецкай эканомікі ў сусветны рынак. Дакумент быў адначасова прадстаўлены прэзідэнту СССР М. Гарбачову і прэзідэнту ЗША Д. Бушу.**

**17 ЧЭРВЕНЯ**

**ў Нова-Агарове адбылося заключнае пасяджэнне падрыхтоўчага камітэта па падпісанні Саюзнага дагавору. Паўнамоцныя прадстаўнікі суверэнных рэспублік падпісалі асноўныя палажэнні дакумента. Асобую пазіцыю заняў прэзідэнт Татарстана М. Шаймieў.**

**18 ЧЭРВЕНЯ**

**Вярхоўны Савет БССР абсалютнай большасцю галасоў прагаласаваў супраць нацыяналізацыі маёмасці КПСС-КПБ, дэпартызацыі дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў.**

**19 ЧЭРВЕНЯ**

**завяршыў візіт на Беларусь патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі, «предстоятель Русской православной церкви» Алексій II.**

# НАС З'ЯДНАЕ МОВА




14—15 чэрвеня ў Доме літаратара СП Беларусі працаваў II з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Пытанні арганізацыйнай работы ТБМ, стан мовы ў рэспубліцы, ход здзяйснення Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» абмяркоўвалі 236 дэлегатаў — прадстаўнікоў суполак ТБМ з Беларусі, Англіі, Казахстана. У прэзідыуме з'езда, апроч сяброў Рады таварыства, знаходзіліся Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч, намеснік Старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук, першы намеснік міністра народнай адукацыі Л. Сухнат, міністр культуры Я. Вайтовіч, міністр замежных спраў П. Краўчанка, старшыня Рады СП Беларусі В. Зуёнак, апостальскі візітар для Беларусаў Англіі а. А. Надсан.

Адкрыў з'езд старшыня Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Н. Гілевіч. Пасля сфарміравання рабочых органаў прагучаў яго даклад аб набытках, праблемах і перспектывах дзейнасці ТБМ (даклад будзе надрукаваны ў наступным нумары). Прамоўца канстатаваў, што лёс роднай мовы працягвае заставацца галоўнай турботай Таварыства беларускай мовы, якое стварылася два гады таму для выратавання роднага слова і ажыццяўлення нацыянальнай моўнай палітыкі. Ніводная цывілізаваная краіна свету не мае падобных культурных устаноў: для Беларусі ж сітуацыя змагання за роднае слова па-ранейшаму актуальная.

За два гады філіі ТБМ створаны ў большасці раёнаў рэспублікі, практычна ва ўсіх ВНУ, выдаецца газета «Наша слова», ладзяцца культурныя праграмы. У ВС БССР працуе 10 народных дэпутатаў ад таварыства, але галоўныя цяжкасці і перамогі, звязаныя з рэалізацыяй Закона аб мовах, пераводам дзяржаўных, асветніцкіх устаноў на беларускую мову — яшчэ наперадзе, лічыць Н. Гілевіч. Толькі ў апошні час бурацца апоры нацыянальнага нігілізму. Аб гэтым сведчаць нядаўнія рашэнні КПБ зрабіць родную мову сваёй рабочай мовай, узнікненне новых партый, арыентаваных на Адраджэнне (Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская хрысціянска - дэмакратычная Злучнасць). Відаць, палітычныя дзеячы ўсё болей разумеюць, што нельга быць дэмакратам без нацыянальнага грунту, гэтаксама як правадзіць нацыянальную ідэю без зважання на дэмакратычную традыцыю, гаварыў дакладчык.

Сёння паўстае задача паклікаць да жыцця навуку лінгвістыку, якая вывучае не толькі слова, але і чалавека, які яго мовіць. Сёння праца ў дзяржаўных установах, парламенце павінна пачынацца з авалодання роднай мовай таго народа, ад імя якога чыніцца палітычная дзейнасць. Менавіта Слова было напачатку, і слова было Бог.

Садакладчык, доктар гістарычных навук Л. Лыч спыніўся на працэсе беларусізацыі навучальных устаноў, фарміраванні нацыянальнага моўнага асяродку.

Аб праблемах, якія ўзніклі пры рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця мовы, расказаў М. Дзямчук.

З'езд ТБМ імя Ф. Скарыны прыняў некалькі рэзалюцый, у тым ліку да пытання пра Саюзны дагавор і па рэформе правапісу. Што тычыцца першай, дык з'езд выказаўся за наданне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР канстытуцыйнага статуса. «Толькі незалежная дэмакратычная Беларусь — гарант прыярытэтных правоў і гістарычнай перспектывы беларускай мовы — зможа адстаяць і захаваць сваю культурную самабытнасць»,— гаворыцца ў рэзалюцыі.

Правапіснай камісіі ТБМ даручана выпрацаваць праект рэформы правапісу, мэта якой — вяртанне мове нацыянальнага аблічча.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# СВЯТКУЕ МІНШЧЫНА

Больш за 6 гадзін працягвалася народнае свята «Глыбокія крыніцы» ў Цэнтральным дзіцячым парку культуры і адпачынку імя М. Горкага беларускай сталіцы. Лепшыя самадзейныя фальклорныя калектывы Мінскай вобласці, лаўрэаты абласнога конкурсу народнага танца паказвалі сваё майстэрства мінчанам і гасцям горада. Нацыянальныя беларускія касцюмы, народныя песні і танцы, абрадавыя карагоды — усё гэта прыйшлося даспадобы гледачам. Надвор'е на гэты раз не сапсавала свята. А якія красамоўныя, сакавітыя, гучныя, прыгожыя назвы ў самадзейных калектываў сталічнай вобласці, што выступалі на свяце, — «Коласаўскія землякі» з Мікалаеўшчыны, «Купалінка» і «Лысагорскія вячоркі» з Чэрвеньшчыны, «Сакавінка» з Маладзечна, «Крынічанька» і «Рэчанька» з Бярэзінскага раёна, «Івянецкія музыкі» і «Гарадоцкія музыкі» з Маладзечаншчыны. Усіх і не пералічыць...

**П. ГАРДЗІЕНКА.**



Выступаюць удзельнікі фальклорнага калектыву «Слуцкія паясы».

Фота БЕЛТА.

## А імя носіць Коласава...

**Аб выжыванні беларускай кнігі ва ўмовах рынку ішла гаворка на чарговым пасяджэнні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое вёў В. Зуёнак. У выступленнях і рэпліках Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, С. Законнікава, Р. Барадуліна, К. Цвіркі, В. Іпатавай, А. Петрашкевіча адзначалася, што ў выданні кніг склалася трывожнае становішча. Паліграфічны камбінат імя Якуба Коласа адмаўляецца друкаваць беларускія кнігі, спасылаючыся на нявыгаднасць, адсутнасць паліграфічных магутнасцяў. Вось так: прадпрыемства, якое носіць імя народнага песняра Беларусі, пагардліва ставіцца да беларускай кнігі. У той жа час зялёная дарога адкрыта каапeратыўным і камерцыйным выданням. Адзначалася і неабходнасць павелічэння аўтарскага ганарару, у тым ліку і за складанне зборнікаў. Як гаварыў Б. Сачанка, за складанне кніг плацяць менш, чым машыністкі бяруць за перадрук, так што неўзабаве не будзе жадаючых рыхтаваць выданні для серыі «Спадчына».**

**На пасяджэнні рады прысутнічаў намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. І. Дзямчук.**

# Прыслухайцеся да нашага голасу

## Зварот вернікаў Мінскай грэка-каталіцкай абшчыны да Вярхоўнага Савета БССР, да Савета Міністраў БССР, да Мінскага гарадскога Савета

Просім вашага садзеяння ў справе перадачы нашай абшчыне будынка былой Петра-Паўлаўскай царквы на Нямізе.

У лістападзе 1990 года прадстаўнікі нашай абшчыны атрымалі ў гарвыканкоме (ад спсп. Гурыновіча і Валодзькінай) абяцанне перадаць нам гэтую царкву пасля рэгістрацыі абшчыны — гэта значыць пасля 1 ліпеня 1991 г. Хутка пасля гэтага каля царквы пачаліся набажэнствы праваслаўнай абшчыны, якая таксама запрэтэндавала на гэты храм. Прыйшлося й нам у разгубленасці пачаць з красавіка набажэнствы ля будынка царквы.

Пытанне патрабуе тэрміновага вырашэння. Лік мінскіх грэка-католікаў імкліва расце, а будынка для набажэнстваў няма. Абрады Хросту, Вянчання, Службы Божыя ладзяцца на кватэрах. У маі наш дэкан а. Пётра Кузьмічоў атрымаў ад сп. Жыльскага ў СМ БССР прапанову, каб нашая абшчына ўзяла ў карыстанне будынак былога Мінскага Кафедральнага сабора (Касцёла езуітаў). Усе мінскія каталікі лацінскага абраду і ксяндзы ўспрынялі гэтую прапанову надзвычай адмоўна. Гэтаксама рэзка адмоўна выказаўся Архібіскуп Казімір Свёнтак 20 мая. Лічым, што гэтая прапанова сп. Жыльскага накіраваная на тое, каб сутыкнуць нас з адзінаверцамі лацінскага абраду.

Мелі мы ў маі і кантакты з сп. Валодзькінай. Яна ўпарта не хоча выслухоўваць нашых аргументаў і трымаецца выключна «канфесійнага падыходу» (гэта значыць, «каму належаў храм, таму і аддамо») і настойліва прапануе нам прадставіць гістарычную даведку пра гэтую царкву.

Таму просім шаноўных дэпутатаў прыслухацца да наступных нашых аргументаў:

1. Гірынята лічыць, што Петра-Паўлаўская царква заўсёды была праваслаўнаю. Але частка гісторыкаў лічыць, што яна была пабудавана уніятамі, а некаторыя — што яна стала праваслаўнаю толькі пасля далучэння Беларусі Кацярынай II. Мы рыхтуем гістарычную даведку з дапамогаю незалежных аўтараў.

2. У выпадку перадачы царквы праваслаўнай абшчыне існуе пагроза яе перабудовы ў «рускім стылі», што знішчыць ці знявечыць гэты рэнесансны помнік беларускага дойлідства.

3. Нават калі гэтая царква і была праваслаўнаю, то належала яна Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царкве, законнай пераемніцай якой ёсць царква Уніяцкая, як уласна беларуская. А сёння на храм прэтэндуе Руская Праваслаўная Царква. Недарэмна хлопцы,

## Лаўрэаты літаратурных прэмій





На чарговым пасяджэнні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі названы лаўрэаты штогадовых літаратурных прэмій творчага саюза.

Лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова стаў паэт і празаік Мікола КУСЯНКОЎ. Гэтай высокай узнагародай адзначана яго новая паэтычная кніга «Дуброва». Аўтар, які часта звяртаецца да тэмы прыроды, і на гэты раз не здрадзіў ёй. Больш таго, гэта гаворка набыла тут вастрэйшы тон, асабліва ў раздзелах «На Дняпры шырокім і на Сожы...» і «Горкая чаша». У творах, што склалі гэтыя раздзелы, чуецца трывожнае чарнобыльскае дыханне.

Барыс САЧАНКА, наш знаны празаік, дарэчы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, апошнім часам усё ўпэўненей адчувае сябе як публіцыст і літаратуразнавец. Яго кніга «Сняцца сны аб Беларусі...» (многія старонкі яе друкаваліся ў «ЛіМе») атрымала Літаратурную прэмію імя Івана Мележа. Артыкулы Б. Сачанкі напісаны з жаданнем — каб менела ў беларускай літаратуры так званых «белых плям». Пісьменнік і грамадзянін выступае супраць бездухоўнасці, нацыянальнага нігілізму і манкурцтва.

«ЛіМ» віншуе сваіх пастаянных аўтараў з высокай узнагародай і зычыць ім новых творчых поспехаў!

## Прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі



ЖУК Ігар Васільевіч. Крытык, літаратуразнавец. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Зані Мядзельскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна (1979) і аспірантуру (1982). Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Літаратурную працу пачаў у 1979 годзе.

Аўтар шэрагу публікацый у перыёдыцы. Выйшаў аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонага звання кандыдата філалагічных навук «Грамадзянскасць маладой беларускай прозы (70-ыя гады)» (1986).

КАЗЛОЎ Анатоль Сяргеевіч. Празаік. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Асінаўка Краснапольскага раёна. Скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1985). Вучыцца ў аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР і працуе рэдактарам аддзела публіцыстыкі часопіса «Полымя».

Літаратурную працу пачаў у 1984 годзе.

Адзін з аўтараў калектыўнай кнігі «Першыя сцяжыны» (1987). Выдаў кнігу прозы «Міражы ценяў» (1990).

КУРТАНІЧ Вольга (Мешчаракова Вольга Міхайлаўна), Паэтэса. Нарадзілася ў 1963 годзе ў горадзе Качканар Свярдлоўскай вобласці. Скончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1987). Карэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Літаратурную працу пачала ў 1986 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі «Птушыны вырай» (1990).

СКОБЛА Міхась Уладзіміравіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын Зэльвенскага раёна. Студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

Літаратурную працу пачаў у 1984 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі «Вечны Зніч» (1990).

## Лаўрэаты прэмій прафсаюзаў

Прэзідыум Савета Федэрацыі прафесійных саюзаў Беларусі прысудзіў прэміі прафсаюзаў Беларусі 1991 года. Сярод лаўрэатаў — прадстаўнікі ўсіх творчых саюзаў рэспублікі.

За творы паэзіі, драматургіі і прозы адзначаны раман У. ДАМАШЭВІЧА «Камень з гары» і зборнік вершаў Б. СПРЫНЧАНА «Жизни вечные круги». У. КАРЫЗНА стаў лаўрэатам у галіне літаратуры і мастацтва для дзяцей: прэмія прысуджана яму за кнігу паэзіі «Мір і сонейка — для ўсіх».

У галіне журналістыкі прэмія прысуджана стваральнікам цыкла перадач рэспубліканскага радыё «Мікрафон перабудовы» Я. КАЗЮКІНУ, Т. МАЛМЫГА, А. ЧАЧОТКУ, У. ЯДРАНЦАВУ, У. Б. ДЗЮБУ, Н. ЧЭРНІ, В. СТЭЛЬМАХ. Лаўрэатам у галіне журналістыкі за кнігу «Собственный корреспондент» стаў і А. КАЗЛОВІЧ.

Лаўрэатамі названы рэжысёр-пастаноўшчык спектакля «Хам» Э. Ажэшкі ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа Б. ЭРЫН і выканаўцы роляў У. КУЛЯШОЎ і С. АКРУЖНАЯ.

Аўтары серыі жывапісных работ В. БАРАБАНЦАЎ і У. КОЖУХ «Чарнобыль» адзначаны прэміяй за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва.

За сімфонію № 4 «Курапаты» прэміяй адзначаны кампазітар К. ЦЕСАКОЎ.

Аўтары праекта спецыялізаванай агульнаадукацыйнай школы для глухіх дзяцей і дзяцей, якія слаба чуюць, што пабудавана на тэрыторыі Севастопальскага парку ў горадзе Мінску, В. БЯЛЯНКІН (кіраўнік праекта), Т. РОЗАВА, Л. СЕЛІВОНЧЫК, У. ПАПРУГА сталі лаўрэатамі ў галіне архітэктуры.

Прэміі за лепшыя дасягненні ў развіцці самадзейнага мастацтва атрымалі ансамбль песні і танца «ЛІДЧАНКА» гарадскога Дома культуры горада Ліда, народны тэатр «СПАДЧЫНА» Палаца культуры Светлагорскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно», народны хор народнай песні Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтамабільнага завода.

За лепшыя работы ў галіне дызайна лаўрэатамі названы С. САРКІСАЎ (кіраўнік праекта) і А. ШАКІРАЎ — дызайн-праект рэкламна-інфармацыйнай графікі, прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны.

Адзначаны дакументальна-публіцыстычны фільм «ЯГО ЗАКАПАЛІ Ў ШАР ЗЯМНЫ» (рэжысёр А. АЛАЙ, аператар С. СМІРНОЎ, гукааператар В. БАЕЎ, аўтар сцэнарыя І. АСІНСКІ).

# ТАК ЯНА ПАЧЫНАЛАСЯ...

Летам 1946 года ля ўваходу ў парк імя Горкага ў Мінску амаль кожны дзень можна было ўбачыць бязногага інваліда ў выцвілым кіцелі, які, паклаўшы перад сабой мыліцы і ваенную фуражку, прасіў дапамагчы «герою вайны». Няголены, заўсёды на добрым падпітку, ён раз-пораз ахрыплым голасам пачынаў спяваць адну і тую ж песню: «Двадцать второго июня, ровно в четыре часа, Киев бомбили, нам объявили, что началася война»...

Я ніколі ўжо не даведаюся, дзе і як ён быў паранены, ці сапраўды быў героем вайны, хоць, лічу, кожны, хто прайшоў франтавымі дарогамі, глядзеў у вочы смерці, з поўнай падставай можа лічыць сябе героем, няхай на грудзях у яго і няма залатой зоркі.

Пра гэта думалася мне ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на сустрэчы франтавікоў — удзельнікаў абарончых баёў на Беларусі ў чэрвені-ліпені сорак першага года.

Ваенна-франтавы аддзел музея, які арганізаваў гэтую сустрэчу, заслугоўвае ўхвалы і за саму ідэю, і за клопат аб тым, каб госці адчувалі сябе тут вольна і раскавана. Перад тым, як даць слова чарговаму ветэрану, вядучая вечара паказвала яго павялічаную франтавую фотакартку, на якой, праўда, цяжка было пазнаць таго, хто сядзеў зараз у зале. Паўвека ёсць паўвека, не жартачкі...

Розныя гэта былі споведзі — і гранічна сумленныя, без ніякай спробы схаваць горкую праўду тых першых дзён і месяцаў вайны, калі немцам здавалася, што абвешчаны Гітлерам бліцкрыг вось-вось закончыцца перамогай; і не вельмі шчырыя, з папраўкай на ідэалагічныя клішэ, згодна з якімі ніякага паражэння Чырвонай Арміі ў сорак першым не было, а быў планавы адыход, прадугледжаны мудрым палкаводцам і стратэгам. Быццам і не быў узяты фашыстамі Мінск на шосты дзень вайны, быццам не стаялі яны ўжо ў кастрычніку сорак першага пад сценамі Масквы...

Аб тым, як краіна была падрыхтавана да нападу фашысцкай Германіі, можна было ў нейкай ступені меркаваць па выступленні былога малодшага *палітрука 632-га артылерыйскага палка* Андрэя Карпавіча Абушкевіча. Пачаў ён так: «Я быў прызваны ў Чырвоную Армію ў пачатку тысяча дзевяцьсот сорак першага года. Сталі мы ў ваенным лагеры недалёка ад Мінска. 17 чэрвеня была *аб'яўлена* вучэбная трывога і па загадзе мы пачалі рухацца ў напрамку сталіцы. Прыбылі мы туды раніцай дваццаць другога чэрвеня, не ведаючы яшчэ, што пачалася вайна. І толькі калі на Мінск упалі першыя бомбы, зразумелі — здарылася самае страшнае. Уступіць у баявыя дзеянні мы спачатку не мелі магчымасці, бо, фактычна, былі бяззбройныя — не было баявых снарадаў, патронаў, стралялі ж на вучэннях халастымі. А тут яшчэ пачалі актыўна дзейнічаць нямецкія дыверсанты, якія ўзрывалі ваенныя склады, жыццёва важныя камунікацыі. Нарэшце мы атрымалі ўзбраенне і занялі баявыя пазіцыі каля Астрашыцкага Гарадка і Зялёнага Луга. Баі ішлі жорсткія, а тут яшчэ востры недахоп боепрыпасаў. *Вось тады мы і пачалі* ўжываць супраць танкаў бутэлькі з гаручай сумессю. Неўзабаве іх сталі шырока прымяняць на ўсім фронце. Пасля я даведаўся, што ініцыятарам ужывання такой даволі эфектыўнай зброі быў камандзір аднаго з палкоў маёр Буслаеў, які ў свой час ваяваў у Іспаніі, дзе бутэлькамі з гаручай сумессю спынялі франкісцкія танкі. Нашаму палку ў час абароны Мінска ўдалося знішчыць 19 нямецкіх танкаў...»

Пра бутэлькі з гаручай сумессю, як дзейсную зброю ў барацьбе з нямецкімі танкамі, гаварыў і былы камандзір кулямётнага ўзвода, удзельнік абарончых баёў на Беларусі ў сорак першым, генерал у адстаўцы Аляксей Фядотавіч Чацвяроў. «Перад вайной нас, пехацінцаў, вучылі, як кулямётным агнём знішчыць варожы танк. Галоўнае — пацэліць у глядзельную шчыліну, — расказваў ён. А калі пачаліся баі, дык убачылі, што зрабіць гэта немагчыма. Вось тады на дапамогу прыйшлі бутэлькі з гаручай сумессю...»

Бутэлька супраць танка... Што ж, у тыя страшныя дні, калі, здавалася, ужо нішто не спыніць жалезную армаду фашыстаў, даводзілася пускаць у ход усё, што было пад рукой. Ніхто ўжо даўно не робіць сакрэту з таго, што на пачатку вайны не хапала ў Чырвонай Арміі стралковай зброі, у тым ліку вінтовак, боепрыпасаў, што праслаўленая ў даваенных песнях авіяцыя не змагла аказаць немцам якога-небудзь прыкметнага супраціўлення. Як сказа адзін з удзельнікаў сустрэчы, фашысцкія самалёты беспярапынна віселі ў паветры, не даючы падняць галаву.

І разам з тым, было б, вядома, гістарычнай няпраўдай сцвярджаць, што немцы не сустрэлі супраціўлення многіх часцей Чырвонай Арміі. Варта ўспомніць жорсткія баі пад Мінскам, якія вялі 100-ая і 117-ая стралковыя дывізіі, і якія потым, калі давялося адступіць, затрымалі фашыстаў ля Жлобіна і Рагачова, не даючы ворагу фарсіраваць Днепр. Удзельнік сустрэчы, былы палітрук роты сувязі 117-ай дывізіі В. Кандрашоў расказаў, як 6-га ліпеня яны трымалі бой ля Жлобіна супраць пераўзыходзячых утрая сіл праціўніка. Васіль Мікалаевіч успамінае эпізод, які засведчыў вечную ісціну — чалавечай натуры не ўласціва забіваць сабе падобнага, асабліва сустрэўшыся з ім вось так, твар у твар. У час вызвалення аднаго з населеных пунктаў на яго раптам выскачыў *фашысцкі афіцэр з парабелумам* у руцэ. «Мой рэвальвер,— успамінаў Кандрашоў,— стрэліў раней, і немец паваліўся. Да яго падбег санінструктар, які быў разам са мной, і з усяе сілы ўваткнуў у цела афіцэра штык. Той застагнаў, *нешта замармытаў*. І тут я ўбачыў, здавалася, неверагоднае — валасы на яго галаве ўзняліся, як, бывае, узнімаецца поўсць на сабаку, якога моцна напалохаеш. Колькі буду жыць, буду помніць той момант....»

У французаў ёсць прымаўка: «На вайне, як на вайне». У тым сэнсе, што вайна — гэта жорсткасць, смерць, кроў. Не скажу нічога новага, але знаходзілася на вайне і месца вялікаму каханню. Тут, у музейнай зале, звярталі на сябе ўвагу два чалавекі — пажылы паўнаваты мужчына з інтэлігентным тварам і сівая прыгожая жанчына. Муж і жонка Шамадзі. Ён — генерал у адстаўцы, часць якога сустрэла вайну ў Заходняй Беларусі і адной з першых уступіла ў бой з немцамі. Мо нечакана для многіх прысутных Віктар Эрнеставіч *пачаў* успамінаць не баявое мінулае, а тое, як у сорак чацвёртым пазнаёміўся на фронце са сваёй будучай жонкай, дасціпна, з гумарам расказаўшы, як камандзір дывізіі выдаў загад лічыць яго, камандзіра палка, і *санінструктара мужам і жонкай*. З таго часу яны вось ужо амаль паўстагоддзя жывуць у любові і згодзе.

Але вясёлае ажыўленне на тварах прысутных хутка знікае, калі слова бярэ М. Дуброўскі, які расказаў аб сваёй паездцы па месцах былых баёў на Віцебшчыне, пра тое, што астанкі тысяч воінаў, якія знайшлі тут сваю смерць, дагэтуль не пахаваны. «Такі цынізм, варварства цяжка сабе ўявіць, — гаварыў ён. — Усю пошукавую працу ўзвалілі на слабыя плечы школьнікаў, у той час як улады, прадстаўнікі Міністэрства абароны СССР займаюць пазіцыю пабочных назіральнікаў...»

На гэтым вечары гучала нямала споведзяў аб гадах ваеннага ліхалецця, баявых сябрах, што не вярнуліся з вайны, ды і аб дні сённяшнім, у якім многім ветэранам жывецца вельмі нялёгка.

Не хачу гаварыць банальных рэчаў, але сустрэчы, падобныя на гэту, вельмі патрэбныя не толькі яе ўдзельнікам — ветэранам вайны, але і ўсім нам. Як напамінак аб вялікай барацьбе з фашызмам, у якой народ наш выйшаў пераможцам.

М. З.



Здымак на памяць. Фота Ж. КУКАРЭКІ.

Недзе ў канцы пяцідзесятых гадоў у Мінск прыехала шмат рэпатрыянтаў з Паўднёвай Амерыкі, пераважна, здаецца, з Аргенціны. Людзі гэтыя, больш дакладна — іх бацькі, *яшчэ да рэвалюцыі* паехалі за акіян, і вось цяпер нашчадкаў тых эмігрантаў «паклікала кроў» і яны вырашылі вярнуцца на Зямлю сваіх продкаў. Як можна было меркаваць, акцыя гэта па нейкіх палітычных матывах была ўхвалена ўладамі, рэпатрыянтаў адразу забяспечылі кватэрамі, уладкавалі на працу. Многія з іх *пачалі* працаваць на Мінскім трактарным заводзе, як тады пра яго з гонарам гаварылі — на флагмане беларускай індустрыі.

Гэта ўсё запеў, а байка ж — наперадзе. Аднойчы, калі рабочыя аднаго з цэхаў прыйшлі на змену, на дошцы аб'яў іх чакаў падпісаны «трохкут*нікам*», г. зн. дырэктарам завода, сакратаром парткома і старшынёй прафсаюзнага камітэта загад аб зніжэнні тарыфных расцэнак. Рабочыя, як звычайна ў такіх выпадках, крыху пабурчэлі і накіраваліся было да станкоў, як раптам адзін з «аргенцінцаў», ускочыўшы на скрыню, закрычаў: «Баста, страйкуем!»

Пра гэта мне расказваў мой добры знаёмы, відавочца таго здарэння. «Ведаеш, — успамінаў ён,— напачатку ўсе мы разгубіліся, нават напалохаліся. Нам жа ў свядомасць убілі, што забастоўка — гэта тыповая прыкмета буржуазнага ладу, пры якім ідзе бессаромная эксплуатацыя рабочых...» «І чым скончыўся ваш «страйк»?» — спытаў я. «Чым? Праз пяць хвілін усё стала вядома заводскаму начальству. У цэх прыбеглі дырэктар, парторг, пачалі высвятляць, як усё было, хто што гаварыў. Пасля «аргенцінца» некуды выклікалі, напалохалі яго на ўсё жыццё. У той жа дзень у цэху *быў склікані* адкрыты партсход, на якім сакратар доўга гаварыў пра класавую пільнасць, пра варожыя галасы, пра тое, што няма ў свеце краіны, дзе б так добра жылося рабочым, як у нас...»

*Вось такая гісторыя.* Сёння яна выклікае ўсмешку, асабліва, калі спрацыраваць яе на сённяшнія падзеі, на магутны забастовачны рух, які, памятаем, у лічаныя дні ахапіў Беларусь. Перамянілася краіна, перамяніліся мы, наша светаадчуванне, псіхалогія, стаўленне да сапраўдных чалавечых каштоўнасцяў.

Само сабой, духоўны зрух закрануў далёка не ўсіх, нямала людзей працягваюць мысліць старымі катэгорыямі, падыходзіць да ўсяго з ранейшымі меркамі. Гэта яскрава паказаў, зноў-такі, той жа забастовачны рух, які выклікаў у грамадстве, з аднаго боку, захапленне і падтрымку, *а з другога* — асуджэнне, падаграваемае партапаратам і некаторымі сродкамі масавай інфармацыі. Публіку імкнуліся ўпэўніць, што забастовачны рух не ўласцівы «ціхай», «спакойнай», «стабільнай» Беларусі, што рабочыя былі ўведзены ў зман падбухторшчыкамі і экстрэмістамі з БНФ, іншых дэмак*ратычных партый і арга*нізацый, якім «чым горш, тым лепш».

Ну, а самі рабочыя, іх лідэры па забастовачным руху? Як яны ставяцца да гэтых «выкрывальных» абвінавачванняў? Пашукаць адказу на гэтае пытанне я паспрабаваў у рабочых Мінскага падшыпнікавага завода—актыўных удзельнікаў красавіцкіх забастовак, а таксама ў сустаршыні сталічнага стачкома Г. Быкава. У гутарцы з апошнім мне таксама хацелася высветліць і прычыны раптоўнага, нечаканага адкату забастовачнай хвалі.

Генадзь Аляксандравіч Быкаў. 34 гады. Шліфоўшчык Мінскага завода аў*таматычных ліній*. З 1983 па 1990 год член КПСС. Адукацыя — вышэйшая, скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ПАЛІТЫКА І ПРАЦА

## На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» М. ЗАМСКАГА адказваюць сустаршыня Мінскага стачкома Г. БЫКАЎ і рабочыя падшыпнікавага завода

**М. Замскі:** — Генадзь Аляксандравіч, вакол так званага адступлення рабочых ідзе нямала спекуляцый, распаўсюджваюцца шмат розных домыслаў, чутак і да т. п. Магчыма, што ў палоне некаторых з іх знаходжуся і я. Таму папрашу вас не крыўдаваць, калі што не так.

**Г. Быкаў:** — Калі ласка!

**М. З.:** — Хачу нагадаць вам перамовы Мінскага стачкома з Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, якія перадаваліся па тэлебачанні. Яны пакінулі ў мяне дваістае ўражанне. Прынамсі, мне падаліся не зусім зразумелымі патрабаванні стачкомаў цаў у што б ні стала склікаць пазачарговую сесію Вярхоўнага Савета, на якой разгледзець патрабаванні рабочых аб дэпартызацыі прамысловых прадпрыемстваў, арміі, праваахоўных органаў, увядзення прыватнай уласнасці на зямлю, выбарах прэзідэнта рэспублікі ўсеагульным галасаваннем і інш. *Ну, добра, уявім сабе, што прэзідыум ВС* паддаўся б націску і пагадзіўся склікаць нечарговую сесію. Ну і што з гэтага? Вы ж не маглі не ведаць, што пры цяперашнім раскладзе сіл у вышэйшым органе ўлады, ніводная з вашых прапаноў не была б прынята. Упэўнены, што яны не «пройдуць» і на цяперашняй чарговай сесіі ВС. Дык дзеля чаго ўсё тое было? Каб паказаць, што вы можаце дыктаваць сваю волю Вярхоўнаму Савету? Ну, а той жа Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, як першы намеснік Старшыні ВС, імкнуўся даказаць, што гаспадаром становішча застаецца ён. І, здаецца, даказаў... Ці я памыляюся?

**Г. Б.:** — Думаю, памыляецеся. Мы паказалі працоўным рэспублікі, чаго варты Прэзідыум Вярхоўнага Савета з яго кансерватыўнымі поглядамі. Я слухаў тады выступленні рабочых, а яны складаюць 99 працэнтаў членаў стачкома, і думаў— не, Беларусь ужо не будзе такой, якой была да пачатку забастовачнага руху. Вы не маеце рацыі, гаворачы, што мы прайгралі тыя перамовы з Прэзідыумам ВС. Улады мушаны былі усё-такі пайсці на пэўныя ўступкі. Вы помніце выступленні прадстаўнікоў Мінскага стачкома па рэспубліканскім тэлебачанні? Спачатку нам далі 15 мінут эфірнага часу, потым, відаць, не без падказкі партыйных органаў, пакінулі толькі пяць, ад якіх мы адмовіліся. У знак пратэсту супраць дыктату кіраўніцтва Белтэлерадыё 10—11 красавіка стала большасць заводаў Мінска, і нам зноў далі 15 мінут эфірнага часу.

**М. З.:** — Пасля зноў адабралі...

**Г. Б.:** — Адабралі... Але не трэба думаць, што нас паклалі на лапаткі. Калі восенню забастовачны рух адновіцца, а я ў гэтым не сумняваюся, асноўным нашым лозунгам будзе: «Вярхоўны Савет у адстаўку!»

**Інтэрв'ю ў інтэрв'ю**

**А. Кадурын, наладчык цэха карданных падшыпнікаў: «Я не лічу, што рабочы рух пацярпеў няўдачу. Мы пабачым, як будуць разглядацца на гэтай сесіі Вярхоўнага Савета нашы патрабаванні. Калі іх праігнаруюць, зноў выйдзем на плошчу».**

**М. З.:** — Мне здаецца, што Мінскі стачком не вельмі ўдала спалучаў эканамічныя і палітычныя лозунгі. Спачатку рабочыя выйшлі, калі не памыляюся, толькі з эканамічнымі патрабаваннямі, потым толькі з палітычнымі—Гарбачова ў адстаўку, даеш дэпартызацыю і прыватызацыю! Ці не занадта хутка змяняліся гэтыя лозунгі — не паспелі асэнсаваць, «пераварыць» адзін, як на змену яму з'яўляецца другі?

**Г. Б.:** — Патрабуючы адстаўкі Прэзідэнта, мы гэтым самым салідарызаваліся з шахцёрамі краіны. Яны таксама пачыналі з эканамічных патрабаванняў, а ўбачыўшы, што ўрад гуляе ў абяцанкі-цацанкі, *перайшоў да палітычных патрабаванняў*, накіраваных на карэнныя змены ў сістэме.

**М. З.:** — Але ці трэба было так дакладна капіраваць той вопыт? Тым больш, што паміж першай і другой хвалямі шахцёрскага забастовачнага руху прайшло амаль два гады. У нас жа — менш за два тыдні.

**Інтэрв'ю ў інтэрв'ю**

**В. Паўлава, кантралёр АТК: «У газетах крытыкуюць забастоўшчыкаў, а скажыце, што нам заставалася рабіць, калі ўсё ў душы *перакіпела? Я вось працую* на заводзе адзінаццаць гадоў, а дагэтуль тулюся з сям'ёй з чатырох чалавек у семнаццаціметровым пакойчыку. Колькі можна здзекавацца з працоўнага чалавека?»**

**Г. Б.:** — Свядомых рабочых, якія разумеюць, дзе корань зла, шукаюць адказы на самыя складаныя пытанні палітыкі, у нас становіцца ўсё больш.

**М. З.:** — Больш — гэта не большасць. Трэба знаходзіць тое звяно, якое дапаможа выцягнуць увесь ланцуг. Гэта, здаецца, словы Леніна, а ён быў вялікім майстрам сацыяльнай дэмагогіі. І нашчадкі яго — таксама дэмагогі адмысловыя.

**Г. Б.:** — Гэта праўда. Хоць партарганізацыі на заводах сталі малалікімі (у нашым цэху, напрыклад, з 30 рабочых—членаў КПСС—у партыі застаўся адзін, дарэчы, Герой Сацыялістычнай Працы), камуністы з ліку ІТР рабілі ўсё, каб сарваць забастоўкі, затрымаць рабочых ля станкоў. Былі выпадкі, калі майстры, каб не выпусціць рабочых з цэхаў, зачынялі на замок дзверы. І хоць людзі не ўключалі станкоў, наверх ішоў рапарт, што завод працуе. Што ж тычыцца дэмагогіі, пра якую вы гаворыце, дык для КПСС гэта родная стыхія. Помніце афіцыйныя паведамленні, *у што рэспублікі* абышліся забастоўкі? Да рубля, да шасцярні падлічылі. Бачыш ты, з-за нас, забастоўшчыкаў, тая ж Гомельшчына (Чарнобыльская зона! Гэта асабліва падкрэслівацца) недаатрымала сто ці сто з нечым трактароў. Можна падумаць, што гэтыя «нявыпушчаныя» трактары павінны былі трапіць менавіта на Гомельшчыну. Я не здзіўлюся, калі на забастовачны рух дзяржпартапарат паспрабуе спісаць эканамічны заняпад ў рэспубліцы. Семдзесят гадоў ішло ўсё нармальна (а не цераз пень-калоду, як на самай справе), а тут прыйшлі гэтыя дэмакраты і ўсё за два-тры дні сапсавалі...

**Інтэрв'ю ў інтэрв'ю**

**Руслан, Сяргей, Дзмітрый (прозвішчаў не назвалі), слесары кавальскага цэха: «Мы калі забаставалі, нам майстар і кажа — за грошы, якія завод недаатрымаў *з-за вас, можна было б пабудаваць стокватэрны дом* для рабочых. А мы ў яго пытаемся: чаму ж той дом не пабудавалі, калі мы ўсе працавалі?»**

**М. З.:** — І ўсё-такі я вярнуся да пытання, якое мяне вельмі цікавіць і якое, даруйце, вы неяк сёння абыходзіце. Чаму ўсё-такі рабочыя не прынялі ўдзел у шырока абвешчаным Мінскім стачкомам мітынгу на плошчы імя Леніна 22 мая, чаму засталіся ля станкоў?

**Г. Б.:** — Не трэба забываць, што дэтанатарам актыўнага ўдзелу рабочых у забастовачным руху з'явілася павышэнне цэн 2 красавіка. Гэта потым *ужо ён набыў палітычную* афарбоўку. Дзяржпартапарат гэта зразумеў і пачаў прымаць тэрміновыя меры—павышаць на прадпрыемствах зарплату, памеры кампенсацый і індэксацыі. На асобных заводах Мінска яны падвоіліся.

**Інтэрв'ю ў інтэрв'ю**

**Елізавета, Ірына, Марыя, дзве Ніны (прозвішчаў назваць не пажадалі), шліфоўшчыцы цэха шарыкападшыпнікаў: «Дзякуючы забастоўцы, адміністрацыя завода пачала нам выплачваць штомесячна 100 рублёў кампенсацыі і 40 рублёў на абеды. Але навошта нам гэтыя падачкі? Хай бы лепш павысілі тарыфныя расцэнкі, каб наш заробак не быў такім жабрацкім — 140—160 рублёў у месяц. А паглядзець толькі, у якіх умовах мы працуем — бруд, загазаванасць, на жыватах *цягаем ад станкоў скрыні з металам*. За дзень так наробішся, што свет не мілы. І так кожны дзень, з году ў год...»**

**М. З.:** — Недзе я чытаў, што некалі з параснікаў у час шторму лілі за борт кітовы тлушч, які нібыта сцішваў удары хваляў аб карабель. Напрошваецца параўнанне — ці не з'яўляюцца цяперашнія падачкі, на якія раптам расшчодрыўся ўрад рэспублікі, своеасаблівай спробай сцішыць удары забастовачных хваль па дзяржаўным карабліі?

**Г. Б.:** — Згодзен з вамі. Хоць не трэба, вядома, заплюшчваць вочы на тое, што значную частку рабочых гэтыя падачкі пакуль што задавальняюць. Многія яшчэ не разумеюць, што нельга бясконца друкаваць грошы, што ў рэшце рэшт гэта прывядзе да гіперінфляцыі. Па нашых разліках, гэта можа здарыцца ўжо сёлета.



**М. З.:** — Разлік на нізкі ўзровень палітычнай адукаванасці большасці рабочых — адна з казырных карт дзяржаўнай і партыйнай бюракратыі. Пакуль што асноўнай сваёй мэты — спынення забастоўкі — яны дамагліся. Ці не здаецца вам, што партакратыяй былі выкарыстаны і пэўныя хібы ў арганізацыі рабочага руху?

**Г. Б.:** — Мы ў стачкоме прааналізавалі прычыны згортвання забастовачнага руху ў рэспубліцы, і прыйшлі да высновы, што не вельмі добра ведалі настрой рабочых, не да канца ўлічвалі нізкі ўзровень палітычнай свядомасці многіх працаўнікоў. Былі сур'ёзныя арганізацыйныя цяжкасці — трымаць пастаянную трывалую сувязь з дзесяткамі тысяч рабочых вельмі складана. Пры гэтым трэба яшчэ ўлічыць, што многім заводскім стачкомам было ўсяго некалькі тыдняў ад нараджэння, ім бракавала вопыту, умення ўздзейнічаць на настрой рабочых. Не змаглі мы і процістаяць масіраванай атацы афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, якія штодзень вылівалі на нашы галовы цэбры бруду. У нас жа на выпуск лістоўкі тыражом 10—15 тысяч экземпляраў ішоў тыдзень...

Адзін з галоўных нашых пралікаў — мы не здолелі прыцягнуць да нашай справы інтэлігенцыю, частка якой вызначаецца, як мы ўпэўніліся, незвычайнай інертнасцю, абыякавасцю, пра што, дарэчы, пісаў у «ЛіМе» Васіль Быкаў. Мы не абыдземся без «мазгавога цэнтра» — палітолагаў, спецыялістаў у галіне масавай псіхалогіі, эканамістаў, журналістаў — адным словам, людзей разумовай працы. Без іх дапамогі, я ўпэўнены, рабочы рух асуджаны на паражэнне.

(Працяг на стар. 12).

# Пошукі... і знаходкі

**Гаворка, распачатая В. Акудовічам у артыкуле «Пошукі страчанага вобраза», была прадоўжана Н. Гальпяровічам і І. Чаротам. У рэдакцыйным партфелі ёсць і іншыя водгукі, дзе аўтары выказваюць свае погляды на сутнасць паднятага В. Акудовічам пытання, палемізуюць з ім або з яго апанентамі. Зараз слова мае крытык Галіна Тычка.**

Згадваюцца выдатныя і ў пэўнай меры прарочыя радкі з ранняга Разанава: «Радзіма! Да цябе з мальбой і з нараканнем не скрануся. Я ў весялосці не з табой, З табой у роздуме і скрусе». Не дзіва, што ў гэтыя дні «роздуму і скрухі» будучыя пуцявіны роднага краю вызначаюць не толькі эканамісты ды палітыкі, але і пісьменнікі. Прынамсі, сведчыць пра гэта артыкул В. Акудовіча, які (што не так ужо часта і здараецца ў нашы часы) выклікаў чытацкую пошту. Прытым неадназначную... І калі Н. Гальпяровіч, падзяляючы пазіцыю аўтара, акцэнтуе сваю ўвагу больш на літаратурных праблемах, імкнучыся развіць і ўдакладніць тэзы В. Акудовіча, то І. Чарота займае цалкам іншую — востра крытычную ў адносінах да высноў аўтара пазіцыю.

У артыкуле І. Чароты мяне здзівілі дзве акалічнасці. Па-першае, нягледзячы на шматлікія «перапрашаю». «паважаны В. Акудовіч» і г. д. непрыхаванае раздражненне. з якім крытык падыходзіць да аналізу спрэчных, на ягоную думку, момантаў у працы свайго апанента. І, па-другое. тое, што паленіка, так бы мовіць, вядзецца ў розных вагавых катэгорыях «Пошукі страчанага вобраза» В. Акудовіча па жанры хутчэй эсэ, чым публіцыстычны артыкул, І. Чарота ж падыходзіць да гэтага матэрыяла з меркаю навуковага артыкула, па меншай меры, ці ўрыўка з дысертацыі. На маю думку, менавіта гэтыя два моманты і перашкодзілі яму застацца аб'ектыўным і справядлівым.

Што ж тычыцца назвы, то «Пошукі спрадвечнай існасці», прапанаваная І. Чаротам, — нешта яшчэ больш туманнае і расплывістае, чым «Пошукі страчанага вобраза». У апошняй выразна адчуваецца, як любяць гаварыць некаторыя беларусы з еўропацэнтрычнымі схільнасцямі, пэўныя ілюзіі на «Пошукі страчанага часу» М. Пруста. Сапраўды, ёсць тут перазовы і гукавыя, і сэнсавыя. Відаць, больш за ўсё ў выніку страчанага часу (больш трох стагоддзяў паніжалася наша нацыянальная самасць, нішчылася духоўная і матэрыяльная культура) і трэба гаварыць пра наш страчаны вобраз. А дакладней кажучы, не страчаны, а перавернуты і ў вачах нашых суседзяў, і ва ўласным нашым уяўленні. Дзякаваць Богу, трывалы імідж, створаны славутым дабралюбаўскім выказваннем ды някрасаўскімі радкамі пра «каўтун у валасах», здаецца, пракрысе пачынае разбурацца падзеямі апошняга часу.

Несумненна, і ў артыкуле В. Акудовіча далёка не кожная выснова выклікае згоду. Зрэшты, калі і бывае, то дужа рэдка, каб тэарэтычныя развагі сталі ісцінай у апошняй інстанцыі. І таму спрачацца з маладым літаратарам трэба, аднак цікавей і карысней для справы было б прапанаваць сваю канцэпцыю, замест агульных крытычных закідаў. Папракаючы апанента занадта спрошчаным падыходам, І. Чарота заўважае, што вучоныя ламаюць галовы над іншымі (апрача славянабалцкіх, згаданых В. Акудовічам) «складнікамі і чыннікамі этнагенезу — скіфскім, гоцкім, обрскім, яцвяжскім». Ды вось бяда, у сур'ёзных навукоўцаў нічога пэўнага пра такія чыннікі няма (безумоўна, за выключэннем яцвяжскага, але ж гэта балцкае племя), хіба што аўтар мае ўласную канцэпцыю этнагенезу і адшукаў доказы для яе.

Ёсць пэўная семантычная розніца і ў словах «корань» і *«паходжанне»*. Калі б не запраграмаванае раздражненне, безумоўна, філолаг І. Чарота яе адчуў бы і зразумеў. Як і той факт, што «расейскі корань» у беларусаў вышукваюць не адно актывісты «Памяти», «Отечества», «Белой России», але нават і вялікі А. Салжаніцын, не кажучы пра значную групоўку дэпутатаў нашага Вярхоўнага Савета, ды тоўсты пласт недавучаных абывацеляў. Ды што з гэтага дзівіцца, калі нават у некаторых нашых навукоўцаў, пераважна гуманітарыяў, праз знешнюю абалонку беларускасці выразна праглядвае менталітэт насельніка рускай правінцыі. Яны ўсё яшчэ ніяк не хочуць (альбо не могуць) адрынуць правілы гульні, навязаныя ім так званым старэйшым братам. Самае недарэчнае тое, што гэта ў пераважнай большасці шчырыя і сумленныя людзі. З уласнае, так бы мовіць, ініцыятывы яны шукаюць крыўду Расіі і знаходзяць яе нават там, дзе яе няма. Успамінаецца адзін зусім ужо анекдатычны выпадак. Не так і даўно, пару гадоў таму, у адной сціплай інфармацыі В. Вячоркі прайшоў прыкладна такі сказ: «Лепш гаварыць на добрай беларускай мове, чым на «плохом русском языке». Кожнаму нармальнаму чалавеку зразумела, пра што ідзе тут гаворка. Ды толькі не зацятым абаронцам расейскасці ў Белай Русі. Нашых высокапастаўленых начальнікаў ад ідэалогіі ледзь інфаркт не разбіў з нагоды гэтага бяскрыўднага выказвання.

Агаваруся, што я ні ў якім разе не адношу І. Чароту да падобных «блюстителей» рускага інтарэсу на нашай зямлі. Аднак некаторыя спробы заступіцца за Расію, паставіць яе па-над крытыкай заўважаю і ў ягоным артыкуле.

Асабіста мне так і засталося незразумелым, чаму нельга супастаўляць ці супрацьпастаўляць радкі з пушкінскага «Памятніка» і «Я не паэта, о крый мяне Божа» Янкі Купалы? Таму што гэта творы, напісаныя з розніцай каля 70 гадоў у часе, ці што? Але ж Акудовіч у згаданым выпадку прыводзіць іх у якасці *прыкладу, і, на маю думку,* досыць удалага ўплыву гісторыка-палітычных фактараў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці і духоўнай культуры. Канешне, можна і не пагаджацца з аўтарам на гэты конт. Аднак даказаць адваротнае гэтаксама цяжка, як і навукова абгрунтаваць сцвярджэнні В. Акудовіча. Сучасныя вучоныя, *праўда,* сцвярджаюць, што на знешнасць, характар, стыль паводзін чалавека ўплываюць нават клімат і ландшафт мясцовасці, у якой ён жыве. І калі перасяліць яго з аднаго геаграфічнага асяроддзя ў іншае, то змены можна заўважыць на працягу некалькі дзесяцігоддзяў, не кажучы пра большыя прамежкі часу. Таму, відаць, і сталінскія вялікія перасяленні народаў рабіліся не так сабе, а мелі пад сабой пэўную мэту, гэта быў свайго роду генетычны эксперымент.

Калі на свядомасць і характар чалавека ўплываюць чыннікі экалагічныя, то, безумоўна, не могуць не мець уплыву і чыннікі псіхалагічныя. Навукова абгрунтаваць гэта — справа адпаведных дысцыплін. Нам відавочна іншае. А менавіта — тыя адрозненні паміж беларусамі і рускімі, пра якія ідзе гаворка ў артыкуле В. Акудовіча. І не было патрэбы яму дэталёва засяроджвацца на так званай «рускай ідэі», бо не ягоная гэта выдумка. Ды і дзеля доказу яе спатрэбіцца колькі тамоў спецыяльных навуковых прац, старонкі газетнага артыкула тут несумненна замала.

Прыпісваючы В. Акудовічу стварэнне ў супроцьвагу рускай ідэі — ідэі еўрапейскай, на маю думку, Чарота трошкі перабольшвае. Як і там, дзе амаль даслоўна паўтарае шаманскія заклінанні работнікаў ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ: «Недаравальна, калі мы, палохаючыся адрозненняў, будзем запар выкасоўваць усё агульнае, адкідаць непадзельную спадчыну старажытнасці, далёкага і не надта мінулага, сённяшнюю лучнасць». Незразумела, каму адрасаваны гэты пафас — у артыкуле «Пошукі страчанага вобраза» адкідвання непадзельнай спадчыны няма.

Захапіўшыся абаронай Расіі, І. Чарота бачыць крыўду для яе і ў выказванні В. Акудовіча, што Расія імкнулася стварыць «агульную для ўсяго чалавецтва канструкцыю светабудовы». Але ж гэта факт, не прызнаць які немагчыма. Яшчэ на пачатку стагоддзя наш выдатны філосаф І. Абдзіраловіч пісаў: «У сваёй акрэсленасці кірунку, нахілу ўсё даводзіць да канчатку, усяму даваць аднолькавую форму, Усход даходзіць да абсурду». Хоць і пачала свае блуканні па Еўропе «здань камунізму», але ж для Еўропы яна так і засталася зданню (пра што сведчаць, дарэчы, і нядаўнія па-

# Шлях да гармоніі

«Прывабная» вокладка кнігі *Вольгі Іпатавай адразу ж уво*дзіць яе ў разрад літаратуры «для сярэдняга школьнага ўзросту»; тое ж уражанне ствараецца і пры чытанні першых раздзелаў аповесці «За морам Хвалынскім». Перад намі сусальная гісторыя аб тым, як просты хлопчык Алекса выратаваў княжацкага сына, а пасля стаў яго дружыннікам, закахаўся ў прыгожую дзяўчыну Бярозу, дачку беднай удавы, і адправіўся за трыдзевяць зямель вызваляць яе ад злодзея-купца Абдурахманбека. Стыль цалкам адпавядае сюжэту: — «Відаць, і пайшоў бы сабе далей Алекса, але азірнулася ў той момант дзяўчына і ўсміхнулася — можа, і не яму зусім, а людзям навакольным. Але ўсмешка як асвятліла яе — бліснулі белыя зубкі, мілым, бездапаможна дзявочым павеяла на хлопца, і ён спыніўся, як ударыла нешта яго ў грудзі, а пасля... пасля *ўжо не зводзіў позірку з дзяў*чыны, лавіў кожны рух яе...»

Усімі гэтымі атрыбутамі развіццё дзеяння настолькі зададзена, настолькі відавочная ненатуральнасць пачатковага пасылу — што ад аповесці нічога асабліва і не чакаеш, хіба што якой-небудзь рэдкай этнаграфічнай падрабязнасці з XVI стагоддзя.

З гэтым пачуццём чытаецца аповесць і далей: падарожжа Алексы на гандлёвым судне булгар, уцёкі, шлях праз пустыню з маладым самаркандцам Нігматам, якога Алекса выратаваў ад смерці, — усё гэта прадказальна і нават як бы пазнаецца.

Першая нечаканасць, якая прымушае ўважліва ўчытацца ў тэкст, — сустрэча Алексы і Бярозы ў Бухары. Логіка папераджальнага развіцця сюжэта патрабуе ўзаемнага шчасця, сумесных уцёкаў закаханых і, хутчэй за ўсё, іх смерць ад стралы раз'юшанага ўласніка. Хаця, магчымы і happy end: шчаслівае вяртанне ў родны Полацк, да несуцешнай маці, княжацкая міласць і — «сталі жыцьпажываць і дабра нажываць»...

Замест усяго гэтага—«ён гаварыў і бачыў, што вочы яе нібы цьмянелі, нешта прачыналася ў іх — не то здзіўленне, не то адчай». Жанчына з падфарбаванымі хной валасамі, якую завуць цяпер Бадыя, зусім не збіраецца пакідаць свой бухарскі дом, любячага мужа і сына Мансура. Больш таго, Алекса заўважае, што Бадыя і яго закадычны сябра Нігмат цяпер разумеюць адзін аднаго з паўслова, і адчувае сябе чужым у гэтай жывой і натуральнай сітуацыі.

*Гэты эпізод напісаны* так дакладна, што вызваляе далейшае развіццё дзеяння і характараў ад фальшывай аднамернасці. Крушэнне выдуманых планаў прыводзіць Алексу ў той стан суму і разгубленасці, выйсце з якога выключае ўсялякую надуманасць. Ён спрабуе вярнуцца на радзіму, але пасля нярадасных і цяжкіх прыгод, разбіты душэўна і фізічна, трапляе ў горны аул парсаў-вогнепаклоннікаў. І тут адбываецца ўнутранае пераўтварэнне княжацкага дружынніка, які нічога, акрамя воінскай доблесці, у жыцці не ведаў. У ім абуджаецца цікавасць да чалавечай мудрасці, да філасофіі, стагоддзямі выпеставанай ва ўсходняй калысцы; менавіта тут прыходзіць да яго разуменне тых ісцін, якія перш заставаліся схаванымі. «...Ён забыўся на ўсё, разважаючы над гэтым, і, можа, тут, у цёмным зіндане, упершыню адкрылася яму ісціна: усё патрэбнае чалавеку — у ім самім, ён можа змясціць у сабе ўвесь свет, які ніхто не адбярэ...»

Ён яшчэ перажыве смерць свайго настаўніка, маладой жонкі і ненароджанага дзіцяці, наперадзе *яшчэ* бадзянні і прыніжэнні. Але ўсё гэта адбываецца з зусім іншым чалавекам, для якога свет — не поле ратнай славы, не пакутлівая бітва духу з жорсткасцю быцця. Бухара для яго цяпер не варожая крэпасць, у якую неабходна прабрацца, а вялікі, свяшчэнны горад, у бібліятэцы якога захоўваецца «Канон» Ібн-Сіны, зборнік мудрасці «Каліла і Дзімна».

Мяняецца і стыль аповесці: з яго знікае фальшывая патэтыка; застаецца толькі гадаць: было ўсё, што адбывалася ў пачатку, аўтарскім пралікам або свядомым мастацкім прыёмам, неабходным для стварэння кантрасту.

Апошняй сумнай мелодыяй гучыць развітанне Алексы з Бадыёй; сведкам яе пахавання ён становіцца выпадкова, тады ж даведваецца і аб тым, што купец Абдурахманбек прапаў у далёкай дарозе...

І сам Алекса гіне бессэнсоўна: ужо на парубежжы Полацкай зямлі, куды вяртаецца паміраць, ад рукі выпадковага разбойніка. І ўсходнія рукапісы з яго хурджына гінуць разам з ім — «у глеістых нізінах Друці расплыліся літары, што дзень за днём, тыдзень за тыднем выводзіў ён, пішучы сваю кнігу».

Не ўдалося каханне, бяследна прайшло жыццё — але духоўны сэнс яго не бяследны. Гэтай думцы аўтар падпарадкоўвае захапляюча-немудрагелісты сюжэт, у яе ўплятае шматлікія жыццёвыя і этнаграфічныя падрабязнасці. Выклікае павагу само гэта пытанне, якое праглядвае скрозь празаічную тканіну: дык у чым ён, гэты сэнс, і як улавіць яго сярод жорсткасці і смерці?

Як яшчэ адна спроба мастацкага, неадназначнага адказу ўспрымаецца другая аповесць —«Чорная княгіня». Яна напісана часткова ў выглядзе дзённіка беднай шляхцянкі XVI стагоддзя Евы Касцевіч, знойдзенага пяхотным афіцэрам у кінутым пад час першай сусветнай вайны маёнтку. «Кажуць, што чуйныя душы — ці то геннай памяццю прадкаў, ці натхненнем, ці таямнічай здольнасцю пераадольваюць звыклыя вымярэнні — вяртаюцца ў даўніну і, паміма ўласнага, перажываюць іншае, чужое жыццё, як сваё. Але, можа, тое жыццё таксама належала ім?»

Гэта гісторыя аб тым, як маладая жанчына на ўласным лёсе спасцігае жорсткасць і беспакаранасць моцных гэтага свету, безабароннасць чалавечага жыцця, грубасць і бруд чалавечых адносін, сярод якіх няма месца ні каханню, ні пяшчоце, ні культуры. Растаптана жыццё княгіні Елізаветы — Гальшкі Астрожскай, ахвяры дынастычных спрэчак; пасля доўгіх пакут гіне ад чумы вучоны Марцін; Ева застаецца адна ў свеце варожым і абыякавым. Для чаго

---

В. Іпатава. За морам Хвалынскім. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.

дзеі ў краінах былой сацыялістычнай садружнасці), у Расіі ж і на нашай зямлі гэтая здань выгадавалася ў жахлівую пачвару.

Трэба прызнаць, што В. Акудовіч занатаваў нямала цікавых, і, як на мой погляд, слушных назіранняў. Згадаю адно. «Талерантнасць у беларусаў, безумоўна, мацней інстынкту самазахавання, і ў гэтым сэнсе так і карціць яе «звузіць» (...) Тут яшчэ трэба ўлічваць і тое, што адваротны побытавы бок талерантнасці — канфармізм». Канфармізм — родавая прыкмета не толькі сённяшняга беларуса, з'ява гэтая пусціла сваё карэнне ў нашай самасвядомасці даўно. І дарэмна І. Чарота іранізуе над выслоўем В. Акудовіча: «Мы Францішак Скарына, а не Сімяон Полацкі, хаця Сімяон Полацкі — гэта таксама мы». Перафразуючы Вальтэра, можна сказаць, што калі б Скарыны не існавала, яго варта было б выдумаць. Як збіральны вобраз беларуса, нацыянальнага героя. Беларуса-еўрапейца, касмапаліта, у сапраўдным разуменні гэтага слова (гл. артыкул У. Конана), погляды якога вызначаліся шырокай талерантнасцю. Нават у найважнейшых пытаннях тагачаснага жыцця — пытаннях веравызнання (да гэтага ж часу вучоныя не могуць высветліць, для вернікаў якой канфесіі ствараў ён свае кнігі!). І разам з тым у асобе Францішка Скарыны побач з гэтаю талерантнасцю — поўная адсутнасць канфармізму. Вучоны ўвесь час адчуваў сябе сынам роднае зямлі Францыскам Скарынам з слаўнага места Полацка. Не самога сябе аддаў Скарына на служэнне Еўропе, а Еўропу, калі можна так сказаць, прынёс у дар свайму народу.

Іншая сітуацыя з Сімяонам Полацкім. Тут талерантнасць паказала свой адваротны бок, той самы ўжо не раз згаданы канфармізм. Скрываўленая і зняволеная маскоўцамі Беларусь ляжала ў руінах, а ейны сын Сімяон спяваў дыфірамбы тырану. Лепш усё-такі на старасці даглядаць дрэўцы ў каралеўскім батанічным садзе, чым выхоўваць будучага стваральніка драпежнай імперыі, які столькі слёз і гора прынясе землякам свайго настаўніка, тым жа жыхарам Віцебска ды Магілёва, знішчыць народную святыню на ягонай радзіме — славутую Полацкую Сафію. Таму і тупіковы шлях Сімяона Полацкага, бо вядзе ён да разбурэння, у нікуды. Аднак невыпадкова В. Акудовіч сказаў, што і Сімяон — гэта мы. Шлях гэты працягвае існаваць і сёння. Але сёння для беларусаў існуе і выбар паміж дзвюма дарогамі, дзвюма душамі... Напрыклад, адным больш даспадобы шлях Зянона Пазняка, іншым... Тут прыкладаў можа быць шмат.

Вернемся мы альбо не — эканамічна і палітычна — у Еўропу, пакажа будучыня — дасць Бог, не такая і неагляндная. Беларусы заўсёды стаялі на раздарожжы, куды павярнуцца — да Усходу ці Захаду, бо праз нашыя землі праходзіла мяжа, якая падзяляла іх (У. Абдзіраловіч). Але цяжка не пагадзіцца з В. Акудовічам, што духоўна сёння мы ўсё ж бліжэй да Еўропы, чым да Азіі, да Заходу, чым да Усходу.

Натуральна, апрача еўрапейскіх, у дадзеным выпадку літаратурных, традыцый, існуюць і магутныя традыцыі рускай класікі, і таму можна гаварыць пра розніцу паміж імі, але не пра перавагу аднае над другой. Калі памятаць пра гэта, тады еўрапейскасць пісьменніка не будзе ўспрымацца як нейкі звышганаровы тытул, імянная прэмія, ці што. У такім разе і творчасць «славянскага» паэта А. Пісьмянкова будзе выдаваць не менш цікавай і арыгінальнай, чым Леаніда Дранько-Майсюка.

Увогуле, варта было б закончыць палеміку не едкім сарказмам, а лёгкай усмешкай. Такой бяды, што В. Акудовіч агулам аднёс пакаленне «Тутэйшых» да ліку еўрапейскіх пісьменнікаў! Пройдзе час, і, магчыма, сапраўды некаторыя з іх узбагацяць еўрапейскае прыгожае пісьменства.

**Галіна ТЫЧКА.**

---

**ўсё гэта адбылося?— няма адказу на гэтым свеце, але ёсць штосьці светлае ў тым суме, які авявае лёс герояў гэтай аповесці.**

**Вользе Іпатавай удаецца перадаць гэты сум; у «Чорнай княгіні» няма фальшывых нот, якія часам чуюцца ў аповесці «За морам Хвалынскім». Ёсць у ёй, праўда, іншае, што перашкаджае ўспрыманню: аўтар быццам спяшаецца насыціць тэкст шматлікімі гістарычнымі падрабязнасцямі, ды ёй не пад сілу зрабіць іх арганічнай часткай мастацкай задумы; яны робяць цяжкай аповесць, надаюць ёй пэўную наўмыснасць, і былі б, напэўна, больш да месца ў каментарыях.**

**Кніга завяршаецца трыма кароткімі апавяданнямі «Гайна і Мікаш», «Мара», «Давыд Гарадзенскі». Яны аб'яднаны ўсё той жа тэмай: воля выпадку ў дзіўным лёсе, улада і няўладнасць абставін над чалавечым жыццём, усепаглынаючае імкненне да звычайнага чалавечага шчасця, і да чагосьці большага, чым будзённасць.**

**Гэтыя аповесці і апавяданні, паколькі напісаны яны Вольгай Іпатавай, варта б аднесці да «жаночай прозы» з усімі ўласцівымі гэтай з'яве прыкметамі. Але тая «вышыўка» па гістарычнай канве, якую выкарыстоўвае аўтар, не дазваляе зрабіць гэта адназначна. Аповесці пазбаўлены драбнатэмнасці, уласцівай, на жаль, большасці празаічных твораў, напісаных жанчынамі. І разам з тым свет пачуццяў, галоўным носьбітам якіх застаецца менавіта жанчына, паўстае ў іх такім усеабдымным, што жаночае аўтарства не выклікае сумненняў. Думаю, што гістарычнае асяроддзе адыгрывае ў гэтым «выхадзе ў прастору» далёка не апошнюю ролю — дарэчы, гістарычная тэма заўсёды была апорай (або падпоркай?) самых розных жанраў сучаснай беларускай літаратуры, не парушае гэту своеасаблівую традыцыю і Вольга Іпатава. Але «апоры» тут пастаўлены ўмела, і нявартa, напэўна, адносіць іх у даным выпадку да разраду забароненых прыёмаў. Усё ж наш час, нягледзячы на яго жорсткасць, зрабіў чалавечыя адносіны больш вытанчанымі, чым у XVI стагоддзі, і адрозненні паміж унутраным светам чалавека і ўмовамі, у якіх ён вымушаны жыць, не з'яўляюцца зараз такімі кантраснымі — прынамсі знешне. Гэтым «знешне», аднак, многае сказана аб аповесцях В. Іпатавай: менавіта знешняга ў іх вельмі шмат; яна невыпадкова змяшчае сваіх герояў у незвычайныя (для чытача) абставіны; уменне паказаць жах быцця скрозь яго будзённасць — ёй тут не ўласціва. Адсюль, напэўна, і зварот да гістарычнай экзотыкі, які дазваляе і нават патрабуе з асаблівай стараннасцю выстройваць менавіта знешні свет. Цяжка сказаць, як выглядалі б гераіні В. Іпатавай у сучасным асяроддзі; напэўна, іх пачуцці і пакуты здаліся б больш бляклымі па-за квяцістым абрамленнем. Але ці варта папракаць аўтара за тое, чым ён «ратуе» сваю прозу, калі гармонія ўсё ж дасягнута?**

**Т. СОТНІКАВА.**

---

**ВІНШУЕМ!**



**Сярод тых, хто актыўна і плённа даследуе і папулярызуе беларускую культуру за рубяжом, Арнольду Макміліну па праву належыць адно з першых месц. Яго дзейнасць у галіне беларускай філалогіі, дыяпазон якой надзвычай маштабны і інтэнсіўны, даўно стала шырокавядомай ва ўсім свеце. У гэтыя дні, калі ён адзначае свой паўвекавы юбілей, хацелася б падсумаваць, акінуць поглядам і пройдзены ім шлях, і тыя набыткі, што створаны руплівай рукою нястомнага даследчыка.**

# НЯСТОМНЫ ДАСЛЕДЧЫК І ПАПУЛЯРЫЗАТАР

Арнольд Макмілін — славіст разнастайных інтарэсаў, вучоны шчыры і плённы ў рэалізацыі сваіх задум і здзяйсненняў, даследчык кампетэнтны і ў вышэйшай ступені сумленны, чалавек па поглядах і перакананнях прагрэсіўны і гуманны. Дыяпазон яго навуковай працы надзвычай шырокі і рознабаковы. І ў гэтай разнастайнасці і шматграннасці — уся яго неўтаймаваная натура: высокакваліфікаванага даследчыка, здольнага перакладчыка, апантанага папулярызатара, шчырага сябра беларусаў, які як ніхто іншы ў змрочныя часы застою актыўна бараніў права беларускага народа на родную мову, на яго нацыянальную незалежнасць.

Яго пяру належаць шматлікія водгукі і рэцэнзіі, цікавыя артыкулы і грунтоўныя агляды, манаграфічныя даследаванні. Ён вядомы на Захадзе як аўтар важных гісторыка-філалагічных прац па мове і літаратуры, як укладальнік анталогій і зборнікаў, аўтар арыгінальных прадмоў, аналітычных аглядаў, дасведчаных біяграфій у многіх важнейшых энцыклапедычных і серыйных выданнях свету. Здзіўляе яго вялікая працаздольнасць: спецкурсы і публікацыі, удзел у міжнародных форумах і навуковым жыцці многіх універсітэтаў, паспяховая і аб'ёмная рэдактарская і выдавецкая дзейнасць. Можна смела сказаць: ні адно значнае мерапрыемства ў галіне славістыкі не абыходзіцца без яго актыўнага ўдзелу. З 70-х гадоў ён пастаянна выбіраецца прэзідэнтам ці віцэ-прэзідэнтам многіх міжнародных і нацыянальных асацыяцый і таварыстваў.

З 1973 года А. Макмілін пастаянны ўдзельнік Міжнароднага кангрэса славістаў, трох сусветных кангрэсаў па вывучэнні Савецкага Саюза і Усходняй Еўропы, шматлікіх міжнародных канферэнцый: «Славянскія культуры і сусветны культурны прагрэс» (Мінск, 1982), «Дастаеўскі і сусветная літаратура» (Мюнхен,1981), канферэнцый, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Купалы і Коласа (Лондан, 1982), Бядулі і Гаруна (Лондан, 1986), 500-годдзю Францішка Скарыны (Лондан, 1985), міжнародных сімпозіумаў «Гётэ і славянскі свет» (Дзюсельдорф, 1979), «Беларусь і Захад» (Мюнстэр, 1990).

Высокі аўтарытэт А. Макміліна як славіста, шырокая папулярнасць яго лекцый і выступленняў садзейнічалі таму, што ён часта запрашаецца для чытання курсаў славістыкі ў сусветнавядомыя універсітэты: Оксфардскі, Шэфілдскі, Тэль-Авіўскі, Атаўскі, Венскі, Кембрыджскі, Гейдельбергскі, Магдэбургскі, Зальцбургскі і інш.

Нарадзіўся Арнольд Барат Макмілін 21 чэрвеня 1941 года ў Вялікабрытаніі, у Нюкасл-апон-Тайн. Цікавасць і цяга да гуманітарных навук прывяла яго ў славістыку, у Школу славянскіх і ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Лонданскага універсітэта, пасля заканчэння якога працаваў там у якасці асістэнта рускай мовы і літаратуры, а з 1987 года прафесарам, кіраўніком курса рускай літаратуры XIX і XX стст. Характэрна, што, распачаўшы свой навуковы шлях па русістыцы, ён прадоўжыў яго ў галіне беларускай лінгвістыкі і, абараніўшы дысертацыю «Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX ст.», стаў у 1971 годзе доктарам славянскай філалогіі. Працуючы кіраўніком аддзела русістыкі Ліверпульскага універсітэта (1976-87), А. Макмілін распачынае там чытанне лекцый па беларусістыцы, актыўна даследуе яе праблематыку.

Далучэнне А. Макміліна да беларусістыкі адбылося ў 1965—71 гг. у час яго працы над «Лексікай беларускай літаратурнай мовы XIX стагоддзя» (1973). Гэта была першая буйная манаграфія, прысвечаная даследаванню абстрактнай лексікі беларускай мовы ў параўнанні яе з рускай, польскай і ўкраінскай з выкарыстаннем новага статыстычнага метаду. Да гэтага ж часу адносіцца і некалькі яго значных лінгвістычных публікацый: дзве з іх пра выдатнага беларускага мовазнаўца Я. Ф. Карскага, дзве іншыя пра абстрактную лексіку беларускай літаратурнай мовы XIX ст. І пазней вучоны актыўна прадоўжыць даследаванне праблем беларускай мовы, напіша шэраг аглядных артыкулаў і раздзелаў для энцыклапедычных даведнікаў і абагульняючых прац: «Паказальнік курсаў замежных моў і слоўнікаў», шматтомнага выдання «Славянскія літаратурныя мовы. Станаўленне і развіццё», кнігі «Станаўленне славянскіх літаратурных моў».

Але, безумоўна, самы важкі ўклад у знаёмства з беларускай культурай на Захадзе ўнёс вядомы англійскі славіст у галіне беларускай літаратуры. Ужо першыя публікацыі яго ў гэтым напрамку выявілі А. Макміліна як здольнага літаратуразнаўцу. Аднак найбольш поўна яго талент як вучонага раскрыўся ў манаграфічным даследаванні «Гісторыя беларускай літаратуры ад яе вытокаў да сённяшніх дзён» (1977). У ёй А. Макмілін даў яркі і каларытны малюнак станаўлення і развіцця беларускай літаратуры ад старажытнасці да сучаснасці, акрэсліўшы важнейшыя этапы і напрамкі ў яе гісторыі. Да гэтага часу нічога падобнага на Захадзе не існавала, хаця ў 1952 годзе і была выдадзена ў Італіі «Беларуская літаратура» Д. Месіны, дзе б так канцэптуальна і аналітычна, глыбока і поўна былі паказаны духоўныя набыткі і дасягненні беларускага народа. Даследаванне А. Макміліна — праца наватарская: у ёй упершыню былі ўлічаны не толькі дасягненні літаратуразнаўства Беларусі, але заходнееўрапейскай славістыкі і беларускай эміграцыі, што дало магчымасць вучонаму пазбегнуць аднабаковасці, звярнуцца да перагляду застарэлых штампаў і ацэнак, увесці ў літаратурны працэс новыя імёны і цэлыя літаратуры (эмігранцкую і Беласточчыны).

Грунтоўны і кампетэнтны навуковы апарат кнігі, палемічная завостранасць, скіраваная на ломку стэрэатыпаў і літаратурных канонаў, шматлікія і значныя ўрыўкі з твораў беларускіх пісьменнікаў у англійскіх перакладах — усё гэта надавала працы аблічча глыбокага і грунтоўнага аналітычнага даследавання. І калі б нават Макмілін больш нічога не зрабіў у галіне беларусістыкі, тым не менш, яго імя было б далучана да лепшых даследчыкаў беларускай культуры за рубяжом.

Аднак напісанне «Гісторыі», па сутнасці, стала толькі пачаткам той вялікай даследчыцкай працы, якую праводзіць, аддаючы ўсе свае сілы і здольнасці, энергію і вопыт неўтаймаваны англійскі славіст. Наступным значным укладам у англійскую славістыку стаў зборнік «Снуецца зданяў рой» (1982), выдадзены Англа-беларускім таварыствам у таленавітых перакладах Веры Рыч. У зборніку знайшла яркае адлюстраванне паэзія трох знакамітых беларускіх песняроў М. Багдановіча, А. Гаруна, З. Бядулі з вельмі прывабнай і дасведчанай прадмовай А. Макміліна, вартай цудоўнага свету іх чароўнай паэзіі. Кніга была прыхільна ўспрынята англійскай грамадскасцю, высока ацэнена прэсай і знайшла шырокі адгалосак у свеце.

Вынікам напружанай працы над вывучэннем гісторыі беларускай літаратуры сталі шматлікія гісторыка-літаратурныя, літаратуразнаўчыя і крытычныя публікацыі Макміліна. Кароткі артыкул не дазваляе прааналізаваць усё багацце і разнастайнасць апублікаваных ім матэрыялаў, таму хацелася б вызначыць найбольш значныя напрамкі, у рэчышчы якіх вялося вучоным даследаванне нашай літаратуры. Гэта публікацыі, прысвечаныя агляду пэўных перыядаў, напрамкаў, жанраў, як «Вехі і тэндэнцыі ў развіцці беларускай паэзіі», «Беларуская духоўная паэзія пачатку XX стагоддзя» і інш., аналізу творчасці найбольш вядомых і любімых даследчыкам паэтаў і пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Ф. Скарыны, В. Быкава і шмат іншых, публікацыі ў абарону беларускай мовы і літаратуры «Русіфікацыя і яе апаненты ў сучаснай беларускай літаратуры» і яго даклады на гэтую тэму, што былі прачытаны ва універсітэтах Бона, Ерусаліма, Цюрыха, у Англа-беларускім таварыстве.

Нават вельмі агульны пералік здзейсненага вучоным прыводзіць нас да глыбокага перакanання: А. Макмілін зрабіў грандыёзную работу па падключэнні беларускай культуры да кантэксту заходнееўрапейскай славістыкі. Гэта дзякуючы яго даследаванням беларуская філалогія шырока ўваходзіць у культурнае жыццё не толькі Вялікабрытаніі, ЗША, Канады, Індыі, але і іншых краін свету — Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Бельгіі, Нідэрландаў, Швецыі.

І зараз ён увесь у творчых планах і задумах: рыхтуе новыя публікацыі «Сімвалізм і Беларусь», «Барока і Асветніцтва: да перагляду перыядызацыі» і інш. З 1991-92 навучальнага года мае намер распачаць курс для аспірантаў «Уводзіны ў беларускую культуру (мова, літаратура, гісторыя)».

Пажадаем жа яму плённых поспехаў у здзяйсненні яго планаў і задум на ніве нашай культуры!

**Уладзімір САКАЛОЎСКІ.**

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**



## Самы доўгі шлях

Напружанасць духу, мужнасць
і знямогу —
Мы ўсё спазналі ў жорсткай
барацьбе:
Здавалася — адну мы перамогу
Ўсе адбывалі для саміх сябе.

Мы адступалі аж да самай Волгі,
Спазналі горыч і народны гнеў.
Які пад намі цяжкі шлях і доўгі
Каменнем, сталлю вогненнай звінеў!

Спявалі песні часам не пра тое,
Што хвалявала ўвесь працоўны люд.
І слова перамога — ўсім святое —
Затоптвалі не раз нагамі ў бруд.

Адужвалі мы розныя дарогі,
А хтось нібы адзін сталіцы браў
І славу ўсю здабытай перамогі
Адзін сабе нахабна забіраў.

Нам білі ў твар пякучы снег і вецер,
Глумілі громам нас і нематой.
А, можа, дасталася мне на свеце
Часцінка цяжкай перамогі той,

Калі над Эльбаю заранкай весняй
Паход закончыў са сваім палком
І на пяску, як слова ўласнай песні,
Сваё імя там напісаў штыком!

А бацька мой лёг дзесьці пры дарозе,
Як уцякаў з палону ў родны кут...
О, колькі ў нашай цяжкай перамозе
Слёз і крыві, і гора, і пакут!

## Мая вера

Мой год дваццаты быў на бруку
Адбіты конскім капытом.
Мяне, ў малітве ўзняўшы рукі,
Дзед ахрысціў сваім пярстом.

Пасля вясковы майстар слаўны,
Што й сёння ў памяці жыве,
Прывёў да веры праваслаўнай
І прычасціў мяне ў царкве.

Дзядуля жыў сваёю верай
І мне ў душу яе ўсяляў.
Але з мяне — шчэ з піянера —
Час гэту веру вытраўляў.

«Ці верыш ты, — пыталі, — ў Бога!»
Ды сам сабе адказваў я:
У нас ва ўсіх адна дарога,
А вера ў кожнага — свая.

Агні, грамы ў залеве шэрай
Па сэрцу білі шмат гадоў.
Я са сваёю тою верай
Быў і на смерць ісці гатоў.

Не забываў матулі мову
І песні роднай стараны.
На долю выпаў час суровы —
Увесь цяжар цяжкой вайны.

Нібыта злой гадзюкі джала
У баях не раз кусала смерць.
Ды гэта не перашкаджала
Сваю ў жыццё мне веру мець.

Я часта ўпотайкі маліўся,
І мо не толькі за сябе, —
За тое, каб была зямлі ўсёй
Здабыта воля ў барацьбе.

Мы засланялі як салдаты
Сваю ад смерці старану.
Калі ж былі ў чым вінаваты,
Дык на сябе бяром віну...

Магчыма, часам не хапала
Нам сілы волі для таго,
Каб вера ў культ у нас прапала,
Каб з сэрца выкрасліць яго!..

Але якое б там напасце
Зноў не паслаў у вочы дым, —
Свая хай будзе вера ў шчасце
Жыць вечна ў сэрцы маладым!

## Старажытны герб

На святую нядзелю нам вёсны
Зелянелі пупышкамі верб,
Два калёры — зямны і нябёсны —
У дзяржаўны ўліваліся герб.

Далятаюць дасюль адгалоскі
З тых далёкіх і гулкіх вякоў
Да маёй да прыбесядскай вёскі
Гучным звонам сталёвых падкоў.

Хто — не знаю — з часоў перажытых
Ад пагоні пакінуў сляды!
Толькі ўпэўнены — герб старажытны
Фарбаваў і мой прадзед тады.

Ён любіў свайго краю раздолле,
Кажуць, майстрам прыроджаным быў:
Можа, ўнёс у той герб сваю долю,
Бо занадта ж ён коней любіў..

Тыя коні праз пушчы і гоні
Неслі вояў у слаўны паход,
І пад Грунвальдам сонца Пагоні
Азарала ім захад і ўсход.

Не адны толькі шведы, татары
Іх адвагай разбіты былі.
Не забыты імкненні і мары
Беларуска-літоўскай зямлі.

Пад Пагоняю ў зарыве сцюжным
Нашы продкі развейвалі смерч,
Бо на конях высока і мужна
Падымалі булатны свой меч.

І калі ўжо мы ў нашым стагоддзі
Бой заканчвалі ў наступе рот, —
Адтуль голас данёсся ў паходзе
Да старых Брандэнбургскіх варот.

Не кранулі чужых мы там коней,
Бо ўсім бачна было на зямлі,
Што схавацца ад Нашай пагоні
І праз трыста гадоў не змаглі..

●

Я дрэўцы пасадзіў пры ўзлеску
У цяпло прыбесядскай раллі.
Набыў іх побач, ля Смаленску,
Дзе ў гадавальніку раслі.

Я іх, маленькіх, у абдымку
Прывёз адтуль у родны кут.
Хай пад нябеснай сіняй дымкай
Іх сонейка сагрэе тут.

Даў дрэўцам месцайка такое,
Каб не трывожыла ім сны.
І не пытаў, з зямлі якое
Ўзялі карэньчыкі яны.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

**Іван ЧЫГРЫНАЎ**



# Паездка ў Панькоўскую Буду

**Гэты раздзел з новага майго рамана, які працягвае падзеі папярэдніх твораў — «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужыя». Раман ужо мае назву — «Не ўсе мы памром». Першая частка яго будзе надрукавана сёлета ў «Полымі».**

**АЎТАР.**

ЗАЗЫБА дарэмна ганяўся за атрадам. Ужо настала ноч, а ён так і не даведаўся, дзе знаходзіліся крутагорскія партызаны, хоць паспеў наведацца і ў Кавычачы, і ў Вараноўку, і ў Гутку. Затое ў Верамейках ужо таксама ведалі, што ў наваколлі з'явіліся нейкія новыя партызаны. Праўда, згадвалі пра гэта нібы паміж іншым, а то ўсё бедавалі аб спаленай сваімі партызанамі зацішонскай смалакурні ды забітым паліцаевым сыне: з'яўленне па той бок Бесядзі карнага атрада разу не ўспамінаў пра Чубара. Да таго ж, у Шурышчы пра Радзівона таксама ніхто не абмовіўся словам, усё роўна як такі партызан зусім не лічыўся ў атрадзе, можа, таму Дзяніс Яўменавіч і дасюль быў спакойны за яго, не так спакойны, як не заклапочаны, каб не сказаць абыякавы, няйначай, чалавек недзе заняты, раз няма ў атрадзе. Нікога ж не хвалюе яго адсутнасць. Але цяпер гэты шум на бялынкавіцкай дарозе, быццам штуршком, вярнуў Зазыбу да ўчарашняй паездкі з Чубарам. Стала трывожна на душы, таксама згадвалася найбольш з тым, што на лузе быў падстрэлены немцамі старэйшы Пахамкоў сын з Кавычач. Дарэчы, прывёз яго ў Верамейкі Дзяніс Зазыба — наехаў на хлопца па дарозе з Шурышча, недалёка ад Цімохавай пожні. Сядзеў небарака з прастрэленай нагой пад таўшчэзнай сасной, няйначай, чакаў, пакуль хто-небудзь забярэ: сілы хапіла толькі на тое, каб дапяцца сюды ад дзербы. Хлопец сам сказаў Зазыбу, хто ён і адкуль. Тады Дзяніс Яўменавіч пасадзіў параненага на воз, прывёз у Верамейкі. А з Верамеек ужо ў Кавычачы, балазе, што якраз у Кавычачах у Зазыбы найперш была справа: туды ж падаліся партызаны з Зацішша. Стары Пахамок спярша разгубіўся, убачыўшы параненага сына, але адразу ж і накінуўся на яго, маўляў, навошта табе здалася тая Гонча, сваіх дзевак у вёсцы мала? Аказваецца, той заляцаўся ў Гончы да нейкай дзеўкі, а гэты раз натрапіў на немцаў... Зазыба, вядома, спытаў у Пахамка пра партызан. «— Былі, былі,— заківаў галавой Пахамок.— Але пайшлі, ведаеш, пайшлі кудысь». Тады Дзяніс Яўменавіч аб'ехаў другія вёскі. Але, як кажуць, таксама ні гуку, ні следу ад партызанаў. «— Былі, былі, а як жа, былі, але пайшлі»,— казалі паўсюды мужыкі. Уся надзея, такім чынам, была на Ганну Піханаву, якая заставалася на ноч у Шурышчы. Уласна кажучы, так яно і выйшла. І ўжо Нарчук пасылаў уранні па Зазыбу з Шурышча. Спярша Мітрафан Ануфрыевіч хацеў, каб Дзяніс Яўменавіч з'ездзіў у Бабінавічы, каб паглядзеў там на свае вочы, што да чаго. Аднак Павел Чарнагузаў пераканаў камандзіра, што найперш трэба наладзіць сувязь з новым партызанскім атрадам. «Сваімі сіламі не толькі немагчыма затрымаць эсэсаўскую каманду, але і падужацца як след»,—даводзіў Павел Ягоравіч. У выніку ў Бабінавічы да Абабуркі пайшоў хтосьці іншы; да Скандзілава ў Трусак таксама быў накіраваны сувязны. Зазыбу ж выпала ехаць у Панькоўскую Буду, дзе хутчэй за ўсё можна было знайсці прышлых партызанаў. Да Зацішша Зазыба ехаў хутка, але нездарма кажуць — з чужога каня злезеш нават на грэблі; так яно і выйшла: за былым панскім маёнткам партызанскі конь раптам пачаў прыставаць; спяшаючыся, Зазыба падганяў яго лейцамі, гучна «нокаў», бадай, на ўвесь лес, ды мала чым памагаў справе; нарэшце выбіліся з сіл і конь, і вазак; Зазыба хацеў выпрагчы каня, каб папасвіўся трохі, ужо вызваліў дугу з левага гужа, аднак штосьці заляскала на бялынкавіцкай дарозе, і ён, з трывогай паслухаўшы, адмовіўся ад свае задумы — зацснуў нанова клешчы, ускочыў на калёсы і зноў «занокаў», мала на што спадзеючыся.

Дзіўна, але ў сённяшняй мітусні, ды і ва ўчарашняй, пад канец дня і ўвечары, Дзяніс Яўменавіч, здаецца, ні з'явілася дакорлівае пачуццё — гэта ж трэба, нават пацікавіцца ў партызанаў не паспрабаваў!..

Раззлаваны на самога сябе, Дзяніс Яўменавіч не мог суцешыць сябе ўжо да самай Панькоўскай Буды. У гэтай вёсцы ў яго быў знаёмы мужык, дарэчы, як і амаль у кожнай, што далёка ці блізка знаходзіліся ад Верамеек, нездарма ж столькі гадоў пражыта было на свеце. Мужыка звалі Іванам, па прозвішчы Партноў. Раней той працаваў на самой Будзе, але яшчэ перад вайной вытворчасць па нейкай прычыне была спынена, і Партноў перайшоў у калгас. Зазыба з пазаміну-лага года яго не бачыў, аднак быў упэўнены, што можа заспець чалавека ў вёсцы: кульгавых на вайну не бяруць.

Іванаў двор збудаваны быў акурат пасярэдзіне Панькоўскай Буды, але па загараддзю туды можна было трапіць і адразу, як выехаць з лесу, адшукаўшы коўраткі, якія гаспадар зрабіў на свой двор з глухога боку. Зазыба так і паехаў. Толькі адчыняць коўраткі не давялося. На двары ўжо стаялі другія калёсы, праўда, распрэжаныя, без каня, але на іх пад плашч-палаткай ляжаў мёртвы чалавек. З гэтага боку, адкуль пад'ехаў Зазыба, тырчэлі босыя ногі, чорныя, усё роўна як моцна пабітыя, а найперш сведчылі, што належалі яны сапраўды нежывому чалавеку, альбо памершаму, альбо забітаму. Акрамя калёс ды нябожчыка на іх, на двары нікога не было, нават каня, на якім, няйначай, прывезлі аднекуль гэтага чалавека, таксама Зазыба не ўбачыў. Зразумела, што колькі часу, але зусім нядоўга, Дзяніс Яўменавіч утрапёна падзівіўся з таго, што раптам убачыў, тады нібыта ачомаўся, пачаў прывязваць лейцамі каня да коўратак, увесь час адчуваючы ў сабе здранцвелую зніякавеласць, якая, вядома ж, не дадавала рашучасці, дарма што Зазыба не сумняваўся, што трапіў туды, куды ехаў. Нарэшце, ён акурат перамог сябе, падаўся па двары да ганка. Дзверы ў сенцы былі расчынены, таму Зазыба далей ганка не пайшоў — хапіла гукнуць у прыцемак, што поўніў сенцы. Голас адразу быў пачуты ў хаце, дзверы адтуль амаль у той жа момант грукнулі, па дошках мокрай падлогі затупалі цяжкія, але ўсё роўна як няўпэўненыя ногі. Па гэтым ужо Зазыба зразумеў, што ішоў хтосьці незнаёмы, прынамсі, не кульгавы гаспадар. І сапраўды, на ганак выйшаў з сенцаў не Іван Партноў, а нейкі чалавек з вінтоўкай у правай руцэ. Вочы ў яго былі неспакойныя, адразу саскочылі з Зазыбы, забегалі па двары, акурат спрабуючы ахапіць позіркам больш таго, што знаходзілася цяпер на ім.

— Хто такі? — груба спытаў ён Зазыбу і малым пальцам левай рукі тыцнуў сабе ў вуха.

Канечне, такое запытанне, няхай нават грубае, не з'явілася нечаканым

# Лёс наканаваў — спяваць



Заслужаны артыст БССР І. Тамашэвіч спявае з камерным хорам.

Фота А. КАЛЯДЫ.

Прафесійным музыкантам ды аматарам добра вядома імя спевака Івана Тамашэвіча. Чалавек, пазбаўлены зроку, ён «на выдатна» скончыў музычны факультэт Гродзенскага педагагічнага вучылішча, затым музычна-педагагічнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута. Яшчэ ў студэнцкія гады І. Тамашэвіч пачаў запісвацца на Беларускім радыё. Звярнуў на сябе ўвагу багатым тэмбрам, музычнасцю, разнастайным рэпертуарам.

Потым ён працаваў у Шклове, Бабруйску, Полацку. І паўсюль вёў вялікую музычна-асветніцкую дзейнасць, выступаў з канцэртамі, аднолькава гожа выконваючы і вакальную класіку, і народныя, і эстрадныя песні.

У 1988 г. праўленне Беларускага таварыства сляпых запрасіла І. Тамашэвіча ў Мінск для арганізацыі музычна-эстраднага аб'яднання. І цяпер «малая філармонія», як называюць яе многія, актыўна працуе пры таварыстве. Калектывы аб'яднання — харавая капэла, эстрадны аркестр, салісты — выступаюць на прадпрыемствах Беларускага таварыства сляпых, у школах для слабавідушчых, перад ветэранамі. Адна з галоўных задач музыкантаў — сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў па зроку. «Сярод невідушчых шмат таленавітых людзей»,— лічыць мастацкі кіраўнік музычна-эстраднага аб'яднання І. Тамашэвіч.

Арганізацыйныя клопаты не перашкаджаюць яму займацца мастацтвам. Уласнае творчае жыццё І. Тамашэвіча насычанае. На розных канцэртных пляцоўках можна пачуць ягоны барытон. Не так даўно адбыўся сольны вечар спевака ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ён выконваў старадаўнія рамансы ды неапалітанскія песні. Падрыхтаваў і выканаў таксама цікавую праграму з Камерна-інструментальным ансамблем Дзяржтэлерадыё БССР, мае і шмат планаў.

Нядаўна за заслугі ў развіцці і прапагандзе музычнага мастацтва Івану Тамашэвічу прысвоена ганаровае званне заслужанага артыста Беларускай ССР. Пра гэту прыемную для спевака падзею даведаліся ўсе, хто прыйшоў паслухаць справаздачны канцэрт камернага хору аб'яднання, і павіншавалі саліста І. Тамашэвіча з пачэснай адзнакай ягонай дзейнасці. Далучаемся да віншаванняў і мы.

Л. ПАЛКОЎНІКАВА.

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ:

# «Я—АБСАЛЮТНЫ ПАЦЫФІСТ»

**Спектакль «Цынкавыя хлопчыкі» Святланы Алексіевіч (рэжысёр—Валерый Раеўскі) ідзе на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Што прымусіла пісьменніцу зноў і зноў звяртацца да ваеннай тэмы! Са Святланай АЛЕКСІЕВІЧ гутарыць журналіст Сяргей ШАПРАН.**

**— Святлана Аляксандраўна, што прымусіла вас узяцца за афганскую тэму?**

— Я не хацела пісаць пра вайну. Ніякіх фізічных і духоўных сіл для гэтай тэмы ў мяне ўжо не было. Але ўся наша гісторыя — ваенная. Мы ўсе — дзеці ваеннага часу, дзеці ваеннага сацыялізму, ваеннай псіхалогіі.

У Францыі, дзе «Цынкавыя хлопчыкі» ўжо выйшлі, у мяне часта пыталіся: «Чаму такая жорсткая кніга?» Я адказвала, што пісала кнігу для савецкага народа. А свядомасць «гома савецікус» празмерна ваенізаваная. Мы прывыклі не проста да смерці, але да смерці мільёнаў суайчыннікаў: рэвалюцыі, грамадзянская і Вялікая Айчынная войны. Наша свядомасць ваенізаваная.

Я вельмі доўга чакала, каб з'явілася такая кніга. Бачыла пахаванні, мацярок на могілках і выступаючых у школах, з жахам глядзела на хлопцаў з гітарамі, якія хацелі быць героямі! Я чакала і хацела, каб пра гэту вайну напісаў мужчына; я чакала восем гадоў...

Калі гэта пачалося, для мяне было ясна, што гэта за вайна. Так, я таксама з таго пакалення, якое жыло пад ідэалагічным наркозам. І толькі ў 1985 годзе, дзякуючы левай прэсе, мітынговай дэмакратыі, грамадская свядомасць пачала абуджацца... Калі я пісала першую кнігу, «У вайны не жаночае аблічча», у мяне былі нейкія ілюзіі: я ўсёткі не думала, што гэтыя семдзесят гадоў, як сказаў А. Салжаніцын, «смяротны перапом хрыбта».

Сёння ў нас у краіне няма інтэлігенцыі. Якая гэта інтэлігенцыя, калі яна ўступае ў змову з існуючым рэжымам?! Зараз я пішу кнігу пра Чарнобыль. Я размаўляла з урачом, які ўпісаў памерламу трактарысту дыягназ «запаленне лёгкіх», хоць ведае, што гэты чалавек загінуў з-за радыяцыі: адзін атам плутонія здольны проста спаліць лёгкія. Урач ведае пра гэта, але загад Міністэрства аховы СССР забараняе ставіць правільныя дыягназы! Што ж гэта за ўрач? І як гэта дзіўна: каты і ахвяры мяняюцца месцамі, і іх ланцужок не канчаецца.

Мы прывыклі да ваеннага жыцця: абавязкова павінен быць станоўчы герой — і ў літаратуры, і ў помыслах, а нашы штогадовыя бітвы за ўраджай? Прывілеі, дадзеныя за ўдзел у вайне? Зразумейце: я не супраць ветэранаў—людзей, якія насуперак усяму выйгралі гэтую вайну (і гэта была страшная пірава перамога; гэта перамога, над якой трэба плакаць, а не размахваць сцягамі). Але атрымліваць сёння за гэта каўбасу?! Гэта магчыма толькі ў маральна жабрацкай краіне. І так ва ўсім: на плошчы Перамогі ў Мінску школьнікі ў ваеннай форме кожны дзень чаканяць крок...

**— Вы не задумваліся, чаму хлопчыкі так любяць гуляць у вайну?**

— Гэта закладзена ў мужчынскай прыродзе,— інстынкт паляўнічага, які пазней можа развіцца ў інстынкт забойцы, які забівае, скажам, не з пачуцця помсты, а проста з жадання забіваць. І тэма палявання на чалавека пранізвае маю кнігу.

Ваенныя газеты часта абвінавачваюць мяне ў нападках на армію. Але што значыць — нападкі на армію? — мы ўсе адна армія. І ўсе размовы пра ваенную дыктатуру, якая насоўваецца, думаю, не больш, чым чуткі. Бо наш народ заўсёды баяўся чалавека з ружжом. Калі ў тэатры Янкі Купалы рэпеціравалі, я гаварыла актрысам, якія іграюць мацярок: «Не іграйце пакуту. Калі вы пакутуеце, вы тым самым гаворыце: «Вінаватая армія, яшчэ нехта!». Але ж забойцы сыноў — вы. Вы, рабы, выхавалі рабоў. Ніхто з вас не выйшаў на плошчу, як рабілі гэта ў Амерыцы салдацкія мацяркі. Ніхто не спаліў партбілета! Так што не іграйце пакуту — іграйце забойцаў!

Армія таксама неаднародная: былі людзі, якія нажываліся на гэтай вайне. Ваенныя радцы атрымалі каласальныя грошы, а салдаты пamiралі за тры рублі. Генералы маюць шыкоўныя дачы, а большасць салдат і афіцэраў жыла ў палатках. І армія — злепак нашага грамадства, дзе ўсе плюсы і мінусы даведзены да вобраза. Я лічу, каб даведацца, што гэта за грамадства, трэба ўбачыць яго армію і турму: там бяспраўе і рабства даведзены да крытычных формаў.

Мяне цікавіць чалавек у таталітарнай сістэме: што ж мы такое і чаму з намі можна рабіць усё, што заўгодна? І як гэта робіцца? Як гэта магчыма: сяржант камандуе салдатамі, якія пазней па-геройску загінуць, а іх мацяркі ці не з могілак пойдуць у школы расказваць пра сваіх сыноў... Армія мяне ніколі не цікавіла, і гэта было б дзіўным для жанчыны. Я проста гляджу на ўсё нармальным жаночым поглядам. Але ж гэта ненармальна: маці вучыць сына не забіваць матылька, а прыходзіць у школу цётка-снайпер і расказвае, як яна забіла 73 чалавекі! Мы ж самі павучаем сваіх дзяцей: «Без арміі ты не мужчына!» Таму я не кажу, што расказала пра ўсю вайну. Я зрабіла гэта так, як убачыла.

Трэба вучыць нашых дзяцей любові да жыцця. А калі чалавек сустрэнецца са злымі рэаліямі гэтага жыцця, ён будзе ім супрацьстаяць, ведаючы цану сапраўднай любові. Неабавязкова расціць чалавека з кулакамі. Мяне выхоўвала мая ўкраінская бабуля. Я дагэтуль помню, што, па вясковым звычаі, калі развітваюцца з нябожчыкам, труну абносяць міма яго дзяцей, міма хлява са скацінай, міма дрэў. І бабуля, паказваючы мне на засохлае дрэва, казала: «Міма яго труну пранесці не паспелі». У гэтым жа цэласнасць і каштоўнасць жыцця! А як жа хаваюць у нас у Мінску? — чатыры чалавекі вынесуць у труне бацьку альбо маці, адвязуць на могілкі. Нібыта знік чалавек! Жыццё робіцца непатрэбным і бессэнсоўным.

# Паездка ў Панькоўскую Буду

(Пачатак на стар. 8—9).

— Жыве, па гаспадарцы памагае. Цяпер сена косім.

— Я не пра ета. Ну, як там, у турме?

— Турма — не бацькаў дом.

— Але ж во неяк выбавіўся? Пашанцавала ці тэрмін выйшаў?

— Здаецца, і тое, і гэта, —не стаў прызнавацца Зазыба. — Галоўнае, жыве цяпер з намі.

— У Гаўрылінцы ж таксама летась адзін уцёк з савецкай турмы. Дак той расказвае — ой-яй-ёй! Такі жах, што ажно не верыцца. Мы сабе тут жывём і не знаем, што Берыя са Сталіным ледва не ўсю краіну ў Сібір ды на Поўнач перасяліў. Значыць, твой не расказвае?

— Ну так... гаварыў... але... дзе тая праўда? Людзей многа — адзін тое бачыў, другі гэта, так што...

— Значыць, твой не расказвае?

— А я не дужа й пытаюся. Цяпер і без гэтага жахаў хапае.

— І то праўда. Дак, кажаш, немцы па той бок Бесядзі. Не крутагорскія?

— Здаецца, не, карнікі. Я іх бачыў, калі перапраўляліся ўчора каля Кубракоўкі.

— А што ты маеш да етых партызан?

— Не я, а нашы партызаны. Нарчук з Чарнагузавым.

— Ты ім памагаеш?

— Дак...

— А-а-а... — з разуменнем паківаў галавой Іван.

З таго боку двара, ужо недзе насупраць Іванавай хаты, пачуліся галасы. Хтосьці моцна смяяўся ў натоўпе, а то ўсё гаварылі ўзбуджана, перабіваючы адзін аднаго. Нарэшце адчынілася фортка паміж варотамі і сцяной хаты, двор пачаў напаўняцца партызанамі. Сярод іх Зазыба ўбачыў і тых двух, што аціраліся тут раней — барадаты і той, што першы размаўляў з ім на ганку, калупаючы пальцам у вусе. Смешна, але ён і цяпер рабіў тое самае, усё роўна як яму свярбела ці было поўна серы, якую цяжка даставаць.

Барадаты падышоў да коўратак, за якімі стаялі Зазыба з Іванам Партновым, кіўнуў Івану:

— Загадана — запрагаць!

— Запрагаць дак запрагаць, — чамусьці падміргнуў Партноў Дзянісу Яўменавічу.

Партызаны тым часам не пераставалі гаманіць і на двары,але ўжо ніхто не смяяўся, відаць, стрымлівала блізкасць забітага. Зазыбу добра было чуваць, пра што ішла размова, дарма што паасобку, як кажуць, у кожнай кампаніі свая. Тым не менш, Дзяніс Яўменавіч здолеў улавіць галоўнае. За выключэннем, можа, гэтых двух, што заставаліся ў вёсцы, усе астатнія сапраўды хадзілі ці то ў Арцюхі, ці то ў Кісялі, ці то ў Манастырок лавіць таго паліцая, што застрэліў з-за плота ў Барэйках ляжаўшага цяпер на калёсах пад плашч-палаткай партызана. П'яны Паўтаракін, — а Зазыба запомніў, як называў яго ў хаце Іван Партноў, — аказваецца, не так сабе здзекліва пагражаў: учарашняга забойцу партызаны і праўда «накрылі» на вяселлі і не толькі зрабілі на вачах у нявесты кастрацыю, а і больш таго... І вось цяпер яны ўспаміналі пра гэта, як пра звычайную забаву... Не тое, каб шкадуючы паліцэйскага, але Зазыба ажно жахнуўся, чуючы партызанскую пахвальбу, дарма што на грамадзянскай вайне таксама нагледзеўся рознага паскудства... У недаверстве тады амаль аднолькава спаборнічалі як белыя, так і чырвоныя... Але тое, што пачуў ён цяпер, здаецца, пераўзыходзіла сваім цынізмам усё іншае...

Іван Партноў тым часам вывеў з хлява мышастага каня, стаў запрагаць, разганяючы па баках партызанаў, якія тоўпіліся пасярод двара. Хтосьці падышоў да калёс, нацягнуў на ногі забітаму плашч-палатку, адкрыўшы галаву. Зазыба глянуў туды, акурат жадаючы схапіць зрокам абрысы твару, але ўбачыў толькі распухлыя шчокі, ацёслы нос, дакладней, твар у чалавека ўжо быў знявечаны смерцю; адны валасы на галаве заставаліся, як і раней, чорнымі, іх зусім не зачапіў тлен, нездарма кажуць, што валасы ў мёртвага чалавека ніколі не мяняюцца колерам і нават у магіле нейкі час працягваюць расці.

Многа на сваім жыцці бачыў Зазыба чалавечых смерцяў, — і на вайне, і так, жывучы ў вёсцы. Прызнацца, ён і не баяўся нябожчыкаў, мог без страху ў душы глядзець на іх; але ўсё-ткі ўразіла яго адна смерць, смерць ягонай маці: раней ён і ўявіць не мог сабе, што памёршы чалавек можа ляжаць у труне, быццам у сне — нават з усмешкай і ўсё роўна як са здаровым колерам твару. А маці так і ляжала, нібы жывая, ажно боязна было апускаць яе ў магілу, засыпаць зямлёй.

Гледзячы цяпер на забітага партызана, Дзянісу Яўменавічу чамусьці якраз гэта і прыйшло на памяць, няйначай, падзейнічаў на яго выгляд нябожчыка. Да таго ж, параўнанні, таксама як і ўспаміны, рэдка калі залежаць ад чалавека, вярней, не заўсёды ва ўладзе яго.

Нарэшце конь быў запрэжаны, але Іван Партноў не адразу стаў выязджаць на вуліцу: расчыніўшы на дзве палавіны вароты, ён тут жа вярнуўся да Зазыбы.

— Дак... ты ж таксама, Яўменавіч, на могілкі разам ідзі, раз трэба. Можаш і на кані. А можаш і тут пакінуць яго. Я от зараз вызвалю двор, а ты ўедзеш. Словам, глядзі сам.

Зазыба паслухаўся Івана, і калі той вывез забітага на вуліцу, заняў сваёй фурманкай вызваленае месца на двары.

На могілкі народу сышлося шмат — і партызанаў, і вясковых. Бабы стаялі пад бярозамі, плакалі, быццам па сва-

Мяне вінавацяць у залішнім натуралізме. Але гэта не натуралізм — я паказваю знікненне чалавечага жыцця. Як адыходзяць фарбы з твару, якога колеру былі ў гэтага чалавека вочы, кроў. Я анатаміру гэта, каб чалавек жахнуўся самога сябе. І ніякая ідэя не можа быць вышэй за чалавечае жыццё. Зло нараджае толькі зло, кроў нараджае кроў. Мы ўсе сядзім у адной турме. І калі мы зноў пачнём дзяліцца «ты — арыштант, я — наглядчык», мы зноў умыемся крывёй. Таму я — абсалютны пацыфіст.

**— Святлана Аляксандраўна, у чым для вас каштоўнасць чалавечага жыцця?**

— У самім жыцці. Калі я пытаюся ў ветэранаў: «Ці вартае жыццё свечак?», яны адказваюць: «Так, мы перамаглі!» і гавораць пра свае ордэны. І толькі адна жанчына сказала: «Божа мой! З такой вайны я нарадзіла такую прыгожую дзяўчынку!» І раптам выцягвае з шафы кароценькую сукенку, у якой распісвалася ў ЗАГСе. Вось гэта — жаночы ўспамін. А то адны гістарычныя ўспаміны на даты: мы перамаглі, мы пабудавалі! Але ж чалавечага жыцця не разгледзець: ці кахаў гэты чалавек?.. На надмагіллях пішуць: «Член КПСС з такога-та года». Але нельга асуджаць за гэта людзей. Калі б мы нарадзіліся на пяцьдзесят гадоў раней, мы былі б такімі ж. Мы ўсе — заложнікі сістэмы. Адзін Сахараў сядзеў у Горкім. А новае пакаленне вучыцца па старых кнігах.

**— Як вы знаходзіце сваіх герояў?**

— Гэта нескладана: выйшаў за дзверы і можна пісаць новую кнігу. Іншая справа, што цяжка знайсці чалавека, які думае і ўслухоўваецца ў сябе, запамінае свой эмацыянальны стан. Бо маса людзей жыве на ўзроўні інстынктаў. Людзей, эмацыянальна таленавітых, значна менш. Скажам, пасля кнігі «У вайны не жаночае абліčча» прыходзілі такія пісьмы: «Мы пачалі запісваць ваеннапалонных. Але кніга не атрымліваецца. Наіўна было б меркаваць, што ў кнізе ўсё гучыць менавіта так, як мне расказалі: гэта ўсё словы маіх герояў і ў той жа час — мае словы. Проста гэты расказ трэба было ўмець пачуць і выбудаваць.

**— Ці дапускалі вы домысел?**

— Не. Прыхлусіць нельга было. Іншая справа, што я даводзіла ўсё да вобраза. Гэтага не растлумачыць — настолькі тонкая гэтая матэрыя... Тут найдалікатная мяжа паміж плакатам і літаратурай. Праўда ў рэальных абставінах і мастацтва — абсалютна розныя рэчы. Мы ж прывыклі, што ідэалогія і мастацтва — адно і тое ж. Няўжо ўсе павінны гаварыць пра подзвіг? Няўжо прывыклі: за нас скажуць, за нас вырашаць? У нас пайковае выхаванне...

**— Але тыя ж афганцы і іх мацяркі засталіся ў нашай дзяржаве адзін на адзін са сваёй бядой.**

— Складана вінаваціць у гэтым нас з вамі. Мы — грамадства ўсеагульнай бяды: незаконна рэпрэсіраваныя, іх сем'і цяпер — афганцы і чарнобыльцы. Але калі чалавек пастаянна крычыць, што яму баліць, дык спачуваць яму робіцца складана. Акрамя таго, існуюць жорсткія законы грамадства: калек і інвалідаў падрастаючае пакаленне расштурхоўвае па ўзбочынах жыцця. У цывілізаваным і маральным грамадстве гэтыя законы можна змякчыць. Але чалавек па сваёй прыродзе, на жаль, адзінокі. Нават у каханні...

**— Святлана Аляксандраўна, што для вас рэлігія? У вашай кнізе тэма Бібліі прагучала рэзкім дысанансам агульнаму сюжэту.**

— Рэлігія для мяне — прысутнасць Усявышняга. Мая свядомасць адмаўляецца абмяжоўваць жыццё кавалкам часу. Так, дзеці — найпрасты шлях да бяссмерця, але я думаю, што кожны павінен яшчэ і выканаць сваё жыццё на гэтай зямлі...

Без Бібліі мая кніга зрабілася б падобнай да тэатра абсурду: гэтыя мацяркі, якія сёння плачуць, а заўтра выступаюць у школах, хлопцы, якія любяць хадзіць у вайсковых формах, крычаць пра боль, а выбіваюць, дастаюць магнітафоны, мэблю і г. д. Гэта дзіўныя, вычварныя формы жыцця. Сацыялістычныя ідэалы зніклі. Засталіся толькі біблейскія. Чым менш размоў на афганскую тэму, тым для мяне лягчэй. Я не лічу, што маю права навязваць некаму свае ідэі, светаадчуванне. Бо ёсць проста радасныя людзі. Нельга ж ператвараць сваё жыццё ў адны могілкі! Калі мацяркі будуць думаць аб пакутах, яны пачнуць нараджаць вырадкаў. Арганізм абараняецца. Аднак увогуле не думаць пра гэта — значыць быць жывёлай. Меру выбірае сам чалавек. Мне раней здавалася: я абаронена ад гэтага грузу чужога болю. Цяпер я стамілася. Падобнае бясследна не праходзіць. І было б дзіўна, калі б я захавала сваю псіхіку, сваё адчуванне жыцця ў некранутым стане...

# БЕЛАРУСЫ ЛЕНІНГРАДА — БАЦЬКАЎШЧЫНЕ



І. ЧАРНЯКЕВІЧ. «Паўз Петрапаўлаўку»

**Выстава мастакоў-беларусаў з Ленінграда пад дэвізам «Маю гонар» экспанавалася ў мінскім Палацы мастацтваў. Яе ўдзельнікі — Ю. Казак, І. Казлоўскі, Ю. Рудак, В. Сівуха, І. Чарнякевіч. Арганізатарамі выступаюць Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» і Міністэрства культуры БССР. Сябры суполкі — мастакі розных кірункаў, адны прытрымліваюцца рэалістычнай традыцыі, другім бліжэй абстрагаваныя формы. Шэраг твораў экспазіцыі можна было б аднесці да містычнага сімвалізму, вызначыць як спробу асэнсаваць праз сучасную мастацкую форму традыцыйныя каштоўнасці хрысціянства. Агульнае для ўсіх мастакоў суполкі адчуванне еднасці з лёсам Бацькаўшчыны. «Час збіраць камяні», — сёння мы часта прыгадваем гэтае біблейскае выслоўе. Яно дарэчы і тут. Камяні ў падмурак Адраджэння.**

**В. БОГУШ.**



В. СІВУХА. «Плынь». Сукно, аплікацыя.

**НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ**

# ПАГЛЯДЗІМ НА «ЗОРКІ»?

**Па сутнасці, адбыўся бенефіс артысткі, якую добра ведае і любіць оперная публіка. На афішы, праўда, не было гэтага святочнага, крыху старамоднага слова. Афіша мовіла прасцей: творчы вечар заслужанай артысткі БССР лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Наталлі Кастэнкі — першы канцэрт цыкла «Зоркі беларускай оперы», распачаты нашым Вялікім тэатрам.**

**Аднак ці кожны канцэрт дае такое рознабаковае ўяўленне пра артыста, як гэты — своеасаблівы творчы партрэт адной з вядучых салістак! У праграме, якую каменціравала дыктар рэспубліканскага радыё М. Захарыя, гучаў і кароткі расказ пра гераіню вечара, і фрагменты з опер, дзе Н. Кастэнка пяе вядучыя партыі лірычнага сапрана, і так званыя творчыя заяўкі — той рэпертуар, што хацела б актрыса ўвасобіць на сцэне.**

**Надзея Яноўская («Дзікае паляванне караля Стаха»), Мадлена («Андрэ Шэнье»), Аіда з аднайменнай оперы, гераіня «Руслана і Людмілы». Сцэны са спектакляў «Рыгалета» ды «Травіята». Нарэшце, арыя з ІІ дзеі і ІІІ дзея оперы «Тоска» — самай трапяткой мары... Усё пачутае выявіла набыткі, памкненні, творчы патэнцыял спявачкі, дало магчымасць парадавацца яе пяшчотнаму цёпламу голасу і падзівіцца рознабаковаму акцёрскаму дару, самаахвярнасці ў мастацтве. А калі-нікалі, на жаль, і засмуціцца выдаткамі яе неашчаднасці да сябе, нястрымнай прагі «спяваць усё» і як мага болей», што выяўляе вакальныя праблемы нават у прызнаных спрактыкаваных майстроў...**

**Публіка, сярод якой было нямала артыстаў оперы, горача вітала абаяльны талент Наталлі Кастэнкі. Яе поспеху паспрыялі ўсе ўдзельнікі вечара: аркестр пад кіраўніцтвам А. Анісімава (які меў і некалькі «сваіх» нумароў), мужчынская група хору, салісты. Партнёры артысткі ў дуэтах былі цудоўныя: А. Саўчанка («Рыгалета»), Э. Пелагейчанка («Травіята», «Тоска»).**

**Відаць, і гэтыя, як і многія іншыя знаёмыя нам імёны, з'явяцца з часам на афішах новага цыкла. Перспектыва ў такіх канцэртаў, як паказаў першы з іх, ёсць: яны не толькі наблізяць да гледача оперных «зорак», а і дапамогуць самім «зоркам» убачыць у нейкім іншым святле сваіх партнёраў, ды і сябе таксама...**

**С. ВЕТКА.**

ім. Партноў паказаў Дзянісу Яўменавічу камандзіра атрада, які прыскакаў на чале кавалькады на танканогім, быццам вытачаным, высокім кані пад жоўтым рыпучым сядлом. Надзеты ён быў у вайсковае — у дыяганалевае сіняе галіфэ і ў такую ж дыяганалевую, але цёмна-зялёную гімнасцёрку, падпяразаную тоўстым рамянём са спражкай, пасярод якой блішчэла начышчанай меддзю пяцікутная зорка. Але на пятліцах гімнасцёркі знакі адрознення былі не энкавудаўскія, а агульнавайсковыя — на кожнай па адной цёмна-вішнёвай шпале. Сам ён быў невысокага росту, але нядрэнна складзены, здаецца, так гавораць у падобных выпадках; вялікі палец правай рукі трымаў трохі воддаль ад спражкі пад рамянём; рухаўся імкліва, але неяк бокам, усё роўна як увесь час адчуваў на сваім шляху нябачную перашкоду, якую патрэбна было пераадольваць; на твары яго, бадай, зусім простым, які ў натоўпе не заўсёды можна адразу адрозніць альбо надоўга запомніць, здавалася, не было ніякага пачуцця, быццам камандзір сапраўды знаходзіўся не на пахаванні свайго партызана, а так — збочыў з дарогі выпадкова на могілкі, каб даведацца, дзеля чаго тут сабраўся народ. І над магілай гаварыў не ён. Развітальнае слова сказаў другі чалавек; гаварыў ён нядоўга, але не прамінуў паведаміць мясцовым жыхарам, што забойца ўжо панёс пакаранне, дадаўшы, што прыйдзе той час, калі і іншыя здраднікі і іх гаспадары знойдуць сабе няслаўны канец на савецкай зямлі. Словам, усё было зроблена і сказана, як на вайне. Але Зазыбу таксама, і Івану Партнову, не спадабалася, што чалавека клалі ў зямлю без труны. Нават камякі зямлі, якія мякка і амаль нягучна шлёпаліся, падаючы ў яму на плашч-палатку, здаецца, не выклікалі жалобнага пачуцця, якое ўзнікае тады, калі трапляюць на драўлянае вечка труны. Нарэшце, збіваючы лістоту на бярозах, прагучэлі апошнія стрэлы з вінтовак, вясковыя кабеты зноў заплакалі галасамі, тады Зазыба стаў прабірацца між людзей да камандзіра. Той хацеў накіраваць яго да кагосьці іншага, няйначай, таксама з камандзірскім званнем, але Зазыба крутануў галавой і амаль сілаю прымусіў выслухаць сябе.

— А чаму ваш камандзір не прыехаў? Дарэчы, як яго прозвішча?

— Нарчук.

— Сапраўднае?

— Так. У нас іначай нельга, бо мы ўсе тут адзін аднаго ведаем, таму няма ніякай патрэбы гуляць у мянушкі.

— Не мянушкі, а клічкі, — паправіў капітан. — Дык чаму сам ён не прыехаў?

— Ну, трэба ж за немцамі сачыць. Распараджэнні аддаць. План прыдумаць, як не пусціць карны атрад на гэты бок Бесядзі.

— Ён у вас, як відаць, стратэг. Але мы на маршы. Мы спецатрад і рухаемся ў Чачэрскія лясы. А тут проста затрымаліся на дзень-два пасля вялікага пераходу. Так што, немцы вашы нам не страшны. Мы сёння тут, а заўтра адзін чорт будзе ведаць.

— Нашы прасілі, каб вы прыехалі, а то...

Аднак камандзір спецатрада, здаецца, ужо зразумеў, што адчапіцца ад Зазыбы проста так не ўдасца, таму перапыніў:

— Нікуды я не паеду. Ды і чаму я павінен верыць, што гэта не правакацыя? Можа, у лавушку хочаце заманіць! Словам, калі вашым таварышам патрэбны мы, то няхай сюды прыязджаюць. Тут і абгаворым.

Зазыба ў разгубленасці пераступіў з нагі на нагу, хацеў зноў пачаць пераконваць камандзіра спецатрада, цяжка перажываючы, што той не паддаваўся на ўгаворы, але дарэмна; сказаўшы апошнія словы, капітан крута павярнуўся і, ледва не подбегам, рушыў да свайго каня, якога трымаў на краю могілак партызан, — чамусьці ў чорнай кубанцы, дарма што было самае лета і ўжо стаяла на двары паўдзённая спёка. Бачачы Зазыбаву няўдачу, нават разгубленасць, да яго падышоў Іван Партноў:

— Ну як, Яўменавіч?

— А ніяк, — ужо не хаваючы злосці, адказаў Зазыба. — Ці то мяне за дурня прымае, ці то сам...

— Ціха ты, — азірнуўся Іван Партноў, баючыся, што пачуюць другія партызаны, якія яшчэ тоўпіліся каля магілы.

Зазыба пасля гэтага і сам нібыта насцярожыўся, глянуў туды.

— Але мне хутчэй трэба ехаць, — сказаў ён змрочна, кратаючы пальцам кончык свайго носа.

— Дамоў? — спытаў Партноў.

— Так.

Іван забраў сваю рыдлёўку, што стаяла, уторкнутая ў дзірван каля магілы, і яны падаліся к дарозе, што вяла ў вёску. Партноў бачыў, што Зазыба сапраўды збянтэжаны, таму не чапляўся з размовай, і яны ў добрай хадзе вельмі хутка апынуліся каля Іванавага двара.

— Можа, паабедаем, га? — спытаў Іван, але Зазыба адмоўна крутануў галавой, не стаў заходзіць у хату; тады гаспадар хуценька вынес яму акраец хлеба, ухапіў на гародзе гуркоў, а ў дадатак яшчэ і жменю салодкага гароху. — Ты ж глядзі, асцярожна, Дзяніс, — ужо ледва не наўздагон крыкнуў Партноў, а потым доўга стаяў каля коўратак, шкадуючы, што стары таварыш паехаў усё роўна як у крыўдзе, ва ўсякім разе, нездаволены і раззлаваны сустрэчай з камандзірам спецатрада.

Дзяніс Яўменавіч таксама праклінаў сваю сённяшнюю паездку ў Панькоўскую Буду; атрымалася яна дарэмнай, больш таго, расчаравала, можа, у самым галоўным: у спадзяванні на паразуменне людзей ва ўмовах варожай акупацыі, а найперш уразіла амбітнасць, калі гаварыць нават самай далікатнай мовай, тых, каго засылалі сюды з-за лініі фронту па розных вайсковых і невайсковых ведамствах. Відаць, у сувязі з гэтым прыйшла на памяць і мінулагодняя крывавая трагедыя ў Машавой...

# АДЗНАКІ ЧАСУ

## Па старонках передваеннага «ЛіМа»

**«Да вайны», «Пасля вайны»—адзнакі, якімі мы, незалежна ад узросту, пазначаем апошняе паўстагоддзе нашай гісторыі.**

**Якім ён быў, той даваенны час, чым жылі людзі, якія яны, тыповыя прыкметы тагачаснага культурнага, літаратурнага, мастацкага жыцця! Так выспела думка пагартаць старонкі нашага «ЛіМа» за некалькі месяцаў, што папярэднічалі вайне. Вельмі часта звычайны артыкул, інфармацыя, рэпартаж могуць расказаць пра асаблівасці часу больш, чым шматпланавы раман.**

**Адразу хочацца сказаць, што з вышыні сённяшняга дня, калі адбылася пераацэнка многіх каштоўнасцей, нямала з таго, пра што пісаў тады «ЛіМ», можа падацца сучаснаму чытачу наіўным, як была наіўнай вера ў добрага бацюхну-цара — вялікага і мудрага Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, яго верных памагатых, у «камуністычныя ідэалы» і да т. п. Як кажуць па-руску — «легко быть умным задним числом», таму не будзем іранізаваць з нагоды прачытанага на пажаўцелых старонках передваеннага «ЛіМа». Гэта—наша гісторыя, і нікуды ад яе не схаваешся.**

«Маршалу Савецкага Саюза Кліменту Яфрэмавічу Варашылаву споўнілася 60 гадоў. «З дзён перамогі Вялікага Кастрычніка з імем Клімента Яфрэмавіча Варашылава звязана слава зброі савецкага народа, баявыя подзвігі Чырвонай Арміі на франтах грамадзянскай вайны, тэхнічная рэканструкцыя і няспынае ўмацаванне Узброеных Сіл Савецкай дзяржавы.

Літаратары, работнікі мастацтваў Савецкай Беларусі разам з усім беларускім народам, разам з народамі шаснаццаці савецкіх рэспублік сардэчна вітаюць слаўнага юбіляра Клімента Яфрэмавіча Варашылава».

●

**У праўленні ССП БССР**

«Адбылося пасяджэнне праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, на якім былі разгледжаны рад важных пытанняў.

З своеасаблівай справаздачай аб сваёй рабоце і творчых планах на бліжэйшы час выступіў тав. Ю. Віцьбіч.

На гэтым жа пасяджэнні ў члены ССП БССР прыняты польскія пісьменнікі Тэафіль Главацкі і Елена Сэльм, беларускія паэты Валянцін Таўлай і Ніна Тарас, яўрэйскі паэт М. Моргентон».

●

**У творчых лабараторыях майстроў мастацтва**

«Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР кампазітар-ардэнаносец А. В. Багатыроў напісаў песню аб 100-й дывізіі. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР гэта дывізія ў 1940 г. узнагароджана ордэнам Леніна за гераічную барацьбу з белафінамі».

●

«З вялікім уздымам прайшоў агульны сход пісьменнікаў Мінска, прысвечаны абмеркаванню гістарычнай пастановы СНК СССР і ЦК ВКПБ «Аб асушэнні балот Беларускай ССР і скарыстанні асушаных зямель калгасамі для расшырэння пасяўных плошчаў і сенажацей».

Адкрываючы сход, пісьменнік М. Лынькоў расказаў аб значэнні гістарычнай пастановы СНК і ЦК ВКПБ, аб тым, што ў беларускай літаратуры тэма барацьбы з балотамі заўсёды займала віднае месца.

З выключнай увагай выслухалі пісьменнікі выступленне сакратара ЦК КП(б) Беларусі тав. Маліна».

●

«...Вялікім недахопам партарганізацыі Саюза мастакоў БССР з'яўляецца слабая работа па выхаванні кандыдатаў у члены партыі. У т.т. Пашкевіча, Грубэ, Азгура, Красоўскага, Берковіч даўно скончыўся тэрмін кандыдацкага стажу, але ніхто не збіраў кандыдатаў партыі для азнаямлення з іх работай па вывучэнню гісторыі партыі, таварышы не маюць канкрэтных нагрузак, альбо партыйных даручэнняў і ў сэнсе далейшага свайго росту, бальшавіцкай закалкі прадастаўлены самі сабе». (З артыкула «Партыйная арганізацыя мастакоў перад справаздачна-выбарчым сходам»).

●

«У новым генеральным плане рэканструкцыі Мінска ўвасабляецца радасць і ўрачыстасць сацыялізма. Не будзе больш вузкіх завулкаў, нізкіх хібарак, на месцы іх вырастуць светлыя і прасторныя карпусы для тых, хто будуе нашу рэспубліку, кує ў ёй шчасце для маладых пакаленняў». (З артыкула «Аб творчасці беларускіх архітэктараў»).

●

«У Беластоцкім Доме Чырвонай Арміі адбыўся вялікі літаратурны вечар, прысвечаны творчасці вядомага беларускага паэта, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Філіпа Сямёнавіча Пестрака. Вечар адкрыў Максім Танк. Аб рэвалюцыйным пафасе творчасці паэта, аб актыўным удзеле паэта ў сацыялістычным будаўніцтве на вызваленай зямлі гаварыў сакратар абкома КП(б)Б тав. Эльман. Ён заклікаў паэта напісаць творы, якія б уславілі веліч сталінскай эпохі.

У заключэнне вечара з поспехам выступіў ансамбль беларускай песні і танца пад кіраўніцтвам Р. Шырмы».

●

**Аб рабоце партарганізацыі Другога Дзяржаўнага драматычнага тэатра**

«Раскрытыкаваўшы партарганізацыю тэатра, аўтар піша: «Міхаіл Іванавіч Калінін у сваім дакладзе аб камуністычнай маралі гаварыў: «Што такое сацыялізм? Гэта пабольш прадукцыі і лепшай якасці». У прымяненні да тэатра гэта азначае — больш спектакляў высокага ідэйна-мастацкага ўзроўню».

●

**Беларускі музей у Вільнюсе**

«У руінах старога манастырскага будынку на Астрабрамскай, 10 у г. Вільнюсе змяшчаецца Беларускі гістарычны музей. У чатырох маленькіх пакоіках захоўваюцца вельмі рэдкія экспанаты гісторыі беларускага народа, што маюць сусветнае значэнне. Пячатак з пярсцёнка полацкага князя Барыса (XII ст.), драгічынскія плёмбы (якія хадзілі нароўні з грашыма), Жухавіцкае рукапіснае евангілле IV ст., Аль-Кітаб (кніга беларускіх мусульман) на беларускай мове, ад рукі рысаваная арабскім алфавітам, прывілей Стэфана Баторыя (Батуры), выдадзены ў 1583 г. людзям Пінскага царкоўнага ўлады часта і г. д. Велізарную каштоўнасць уяўляе калекцыя зброі беларускіх віцязяў і воінаў, народная вопратка, ганчарныя мастацкія вырабы, калекцыі тканін і г. д. Звяртае на сябе ўвагу сцяг беларускіх паўстанцаў Лідскага павету (1863 г.), адабраны ў іх палкоўнікам рускай службы Пахомавым, які задушыў гэтае паўстанне».

●

«Вялікі кастрычнік і стварэнне беларускай дзяржаўнасці яшчэ недастаткова закрануты ў нашай літаратуры. Трэба ў велічных высока-мастацкіх вобразах паказаць тую бязмежную падзяку, якую адчувае беларускі народ за клопаты аб сабе да Ул. І. Леніна, І. В. Сталіна, да іх бліжэйшых саратнікаў — Я. М. Свярдлова, М. В. Фрунзе, Л. М. Кагановіча, Г. К. Арджанікідзе, К. Е. Варашылава, А. Н. Мяснікова».

(З артыкула Ю. Віцьбіча «Гістарычная тэматыка і пісьменнікі»).

●

«Сталіцу Літоўскай ССР—Вільнюс для ўмацавання культурнай сувязі двух братніх рэспублік днямі наведалі народны паэт БССР, лаўрэат Сталінскай прэміі Янка Купала, віцэ-прэзідэнт АН БССР, народны паэт Якуб Колас, сакратар ЦК КП(б)Б па прапагандзе Ц. Гарбуноў, навуковы супрацоўнік АН БССР М. Ларчанка».

●

«Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР скульптар-ардэнаносец З. Азгур рыхтуе да Усесаюзнай мастацкай выстаўкі «Наша Радзіма» манументальную скульптуру «Сталін у ссылцы».

●

«Адбыўся чарговы адкрыты сход партыйнай арганізацыі ССП БССР, на якім былі разгледжаны: заява паэта-ардэнаносца Пятра Глебкі аб прыёме яго кандыдатам у члены КП(б)Б і кандыдата партыі тав. А. Куляшова аб прыёме яго ў члены КП(б)Б. У абмеркаванні заяў прынялі ўдзел т.т. Броўка, Кучар, Кадовіч, Крапіва, Вольскі, Р. Лынькоў, Клімковіч, М. Лынькоў. Партыйная арганізацыя аднагалосна пастанавіла прыняць тав. П. Глебку кандыдатам у члены КП(б)Б, тав. А. Куляшова — членам КП(б)Б».

●

«У яўрэйскім калгасе «Эрштэр май» Гродзенскага раёна адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 25-годдзю смерці Шолам-Алейхема».

●

«Кампазітар С. Палонскі стварыў музыку на тэкст «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну».

●

«Работнікі літаратуры і мастацтва з энтузіязмам падпісваюцца на пазыку трэцяй пяцігодкі (выпуск чацвёртага года).

2-га чэрвеня ў зале Дома пісьменнікаў у Мінску адбыўся мітынг, прысвечаны падпісанню на новую пазыку. Выступіўшыя пісьменнікі Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Міхась Клімковіч, М. Грубіян з вялікім уздымам гаварылі аб бліскучых перамогах сацыялізма. Пасля пачалася падпіска на пазыку. Народны паэт БССР Якуб Колас падпісаўся на 7500 рублёў, лаўрэат Сталінскай прэміі Кандрат Крапіва — на 7500 р., на 4 тысячы кожны падпісаліся Міхась Лынькоў і Віталь Вольскі. На 3 тысячы — Пятрусь Броўка, Кузьма Чорны і Пятро Глебка. К 8 гадзінам вечара пераважная большасць пісьменнікаў аформіла сваю падпіску».

●

І апошні передваенны нумар «Літаратуры і мастацтва» за суботу 21 чэрвеня 1941 г. (цікавае супадзенне — праз 50 год «ЛіМ» таксама выйшаў 21 чэрвеня — толькі гэта ўжо не субота, а пятніца). Нішто ў ім не нагадвае пра тое, што заўтра пачнецца вайна, якая паламае лёсы мільёнаў людзей, прынясе кроў і смерць. Пра што ж пісалася ў тым, апошнім нумары? Амаль увесь ён быў прысвечаны гастролям у Мінску МХАТа імя Горкага. Адпаведныя і загалоўкі артыкулаў, змешчаных тут: «Вялікая школа для ўсіх тэатраў», «Масквін у ролі Лукі», «Сцяганосец савецкага тэатра».

А заўтра была вайна...

Падрыхтаваў
М. МІХАЙЛАЎ.

# Палітыка і праца

(Пачатак на стар. 5).

Што і казаць, калі мы сабралі пасяджэнне Мінскага стачкома пасля 22 мая, настрой быў на ўсіх кепскі. Падбадзёрыў нас прадстаўнік польскай «Салідарнасці», якога мы да сябе запрасілі. «Хлопцы, вышэй галовы,— сказаў ён.— Мы ішлі да сённяшняй Польшчы дзесяць гадоў праз падполле і турмы,а вы хочаце ўсяго дамагчыся за некалькі тыдняў. Прытым, нам было лягчэй — камуністычны рэжым усталяваўся ў нас толькі ў 1945 годзе і не пусціў такіх, як у вас, глыбокіх каранёў».

**М. З.:** — Як,на вашу думку, будуць разгортвацца падзеі ў рэспубліцы цяпер, пасля спаду забастовачнага руху?

**Г. Б.:** — Трэба чакаць наступлення ўсіх антыдэмакратычных сіл...

**М. З.:** — Добра, што не ўзброеных...

**Г. Б.:** — У Тбілісі, Літве, Латвіі былі прыведзены ў дзеянне і яны... Адным словам, наступлення ўсіх, хто ўвасабляе таталітарны рэжым. Намі, напрыклад, пачала «цікавіцца» рэспубліканская пракуратура...

**Інтэрв'ю ў інтэрв'ю**

**А. Еўдакімчык, абрубшчык цэха карданных падшыпнікаў, старшыня заводскага стачкома: «Днямі з'яўляецца да мяне чалавек і паказвае пасведчанне работніка раённага аддзела КДБ. Кажа: да іх паступіў сігнал аб тым, што на адным з пасяджэнняў стачкома прагучаў заклік да ўзброенага выступлення супраць улады. Я адказаў, што гэта лухта, правакацыя. «Будзем разбірацца», — прыгразіў кэдэбіст. З тым і пайшоў».**

**М. З.:** — На што вы нацэльваеце цяпер сваю асноўную ўвагу?

**Г. Б.:** — На дэпартызацыю прадпрыемстваў.

**М. З.:** — Восенню мінулага года я быў у Салігорску, дзе стачком «Беларуськалію» таксама пастанавіў вывесці парткомы за вароты прахадных. Ну і што? Як былі парткомы на рудаўпраўленнях, так і засталіся. Камуністы тую пастанову проста праігнаравалі. Вы ж, вядома, ведаеце, якую лінію гне партапарат — маўляў, як толькі з заводаў, устаноў, арміі, праваахоўных органаў будуць выдалены структуры КПСС, іх месца адразу зоймуць прадстаўнікі іншых партый і арганізацый.

**Г. Б.:** — Гэта дэмагогія. Калі мы гаворым пра дэпартызацыю, дык маем на ўвазе не толькі КПСС. Рабочы прыходзіць на завод прадаваць сваю працу. Гэта і ёсць рынкачныя адносіны. Свае палітычныя сімпатыі хай ён праяўляе за варотамі завода. Так робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах.

Цяпер стачкомы на мінскіх прадпрыемствах вядуць падрыхтоўку да правядзення рэферэндуму, які павінен даць адказ на пытанне — быць ці не быць у нас дэпартызацыі.

**М. З.:** — Але ж Вярхоўны Савет рэспублікі закон аб ёй яшчэ не прымаў і наўрад ці прыме.

**Г. Б.:** — Мы разумеем гэта.Але калі большасць рабочых выкажацца за дэпартызацыю, вярхоўны орган улады змушаны будзе лічыцца з іх думкай.

**М. З.:** — Якую ролю ва ўсім гэтым вы адводзіце прафсаюзам?

**Г. Б.:** — На працягу ўсёй савецкай гісторыі прафсаюзы верай і праўдай служылі таталітарнай дзяржаве, дапамагаючы ёй эксплуатаваць працоўных. Амаль нічога ў гэтым сэнсе не змянілася і цяпер, хоць той Белсаўпроф і змяніў шыльду, стаў называцца асацыяцыяй. Яркі прыклад гэтаму — адносіны прафсаюзных камітэтаў да забастовачнага руху. У лепшым выпадку — нейтралітэт. А наогул дзейнічалі ва унісон з адміністрацыяй, партыйнымі органамі. Мне думаецца, надышоў час стварэння новых,незалежных прафсаюзаў. Большасць рабочых падтрымлівае гэту ідэю.

**М. З.:** — Я ведаю, што існуюць розныя падыходы да тактыкі забастовачнага руху.

**Г. Б.:** — Так, сярод рабочых лідэраў ёсць прыхільнікі сілавога ціску на дзяржаўныя структуры. Гэта свайго роду бальшавіцкі падыход — не спыняцца ні перад чым...

**Інтэрв'ю ў інтэрв'ю**

**М. Ярхоў, рабочы інструментальнага цэха, член заводскага стачкома: «За актыўны ўдзел у забастоўцы адміністрацыя вырашыла пазбавіць мяне і яшчэ аднаго таварыша месячнай грашовай кампенсацыі. Пратэстуючы супраць гэтага *«рашэння»*, спынілі працу сотні працаўнікоў. Начальства вымушана было адступіць...»**

Мінскі стачком шукае іншых шляхоў. На нашу думку, неабходна максімальна выкарыстаць сітуацыю, якая склалася ў рэспубліцы, дамагаючыся выканання ўладамі хоць часткі патрабаванняў рабочых.

Трэба захоўваць, мацаваць створаныя стачачныя структуры. Толькі арганізаванасць, салідарнасць рабочых можа прынесці поспех.

**Р. S. Назаўтра пасля наведання падшыпнікавага завода, я пазваніў А. Еўдакімчыку. Ён са скрухай у голасе паведаміў, што пакой, які быў выдзелены стачкому ў будынку заводакіравання, адабралі. Маўляў, вы незаконныя...**

**Вось так...**

# «Мы ўпершыню даведаліся...»

Шаноўная рэдакцыя газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі!

Пасля доўгага роздуму і шматлікіх ваганняў мы вырашылі ўсё ж звярнуцца да Вас у сувязі з апублікаваннем у Вашай газеце («Літаратура і мастацтва», 22 лютага 1991 г.) артыкула Юрася Закрэўскага «Па той бок «крэсаў». Мы — гэта кіраўніцтва Саюза палякаў Беларусі, у шэрагі катората на сённяшні дзень уваходзяць многія тысячы грамадзян Беларусі польскага паходжання.

Мы звяртаемся да Вас не таму, што вышэйназваны артыкул з нашага пункту гледжання абавязкова патрабуе неяк адрэагаваць, з мэтай апраўдацца перад шаноўнай рэдакцыяй і ўсімі чытачамі газеты. Зусім наадварот. Кожнаму непрадузятаму чытачу-інтэлігенту з'яўляецца відавочным пасквілянскі характар гэтай публікацыі. Нас здзіўляе сам факт, што на старонках такой паважанай газеты, якая ўносіла і ўносіць значны ўклад у абнаўленне жыцця ў нашай рэспубліцы, мог з'явіцца матэрыял, мэтанакіраванасць каторага адназначная — ашальмаваць, ачарніць дзейнасць людзей, якія хочуць адрадзіць польскую мову і польскую культуру сярод тых, хто нарадзіўся і лічыць сябе палякам.

На жаль, у апошнія часы стала амаль прызнакам «культурнасці» сярод некаторай часткі беларускай інтэлігенцыі (неабавязкова творчай) ужываць выраз «палякі» ў адносінах да палякаў Беларусі абавязкова ў двукоссі. І няўжо незразумела, што нацыянальная прыналежнасць (паляк рускі, беларус і г. д.), узятая ў двукоссі — гэта абражае людзей? Не хочацца верыць, што гэтыя двукоссі свядома ставяцца з мэтай прычыніць душэўны боль, унізіць, плюнуць у душу. Няўжо прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі не могуць знайсці больш інтэлігентных аргументаў у абарону свайго пункту гледжання?!

Шчыра кажучы, гэтыя двукоссі ў тэкстах Юрася Закрэўскага, П. Васілеўскага і ім падобных нас не асабліва абражаюць. Ёсць людзі, не ў крыўду ім кажучы, на каторых крыўдзіцца проста недарэчна. Няхай ім Бог прабачыць! Нас больш здзіўляе тое, што для падобнай творчасці шырока прадстаўляюцца старонкі газеты творчай інтэлігенцыі. Няўжо нельга знайсці нічога больш творчага па пытанні польска-беларускіх узаемаадносін у мінулым і цяпер?! Мы пакуль што гонім ад сябе як абсурдныя меркаванні, што пазіцыі названых аўтараў — гэта пазіцыі самой рэдакцыі газеты. Бо давайце паглядзім аб'ектыўна, без нацыяналістычных лінзаў на тое, што напісаў (у ліпені—жніўні 1990 г. актыўны паляк, а зараз заядлы беларус) Юрась Закрэўскі.

Па-першае, як трапіў гэты адданы беларускай справе чалавек у склад слухачоў курсаў, якія былі арганізаваны для палякаў СССР пры польскіх універсітэтах? Значыць, ён у той час лічыў сябе палякам. Калі так, то цікава было б даведацца, што прымусіла яго так раптоўна і так рашуча змяніць сваю нацыянальную прыналежнасць?! А можа, ягоная польскасць была толькі маскіроўкай, пад якой ён з самага пачатку настроіўся збіраць кампрамат і зрабіць кар'еру сучаснага беларускага Штырліца?! Заданне якой арганізацыі ён выконваў у гэтым выпадку? Праўда, можа быць і такое, што гэтую місію ён узваліў на сябе добраахвотна. Гэты варыянт найбольш прымальны з пункту гледжання звыклага чалавека, але зноў жа пытанне: «Чаму гэты Закрэўскі, не здабыўшы ніякіх сур'ёзных матэрыялаў у сваёй справе нагуе ідэю культурнага адраджэння палякаў і кідае злосныя абвінавачванні супраць кіраўнікоў гэтага руху? Бо ягоным трызненням можа паверыць толькі той, каму вельмі хочацца гэтаму верыць».

Па-другое. Давайце прааналізуем «кампрамат» Закрэўскага. Даведаемся, што курсы, слухачом каторых ён нібыта быў, былі разлічаны на ўзбуджэнне польскіх патрыятычных настрояў сярод палякаў. А што ў гэтым дрэннага? — дазвольце Вас запытаць. А дрэннае,— абгрунтоўвае Закрэўскі,— у тым, што на курсах вельмі тэндэнцыйна падавалася, цытуем: «гісторыя «крэсаў усходніх», як называюць Беларусь, Украіну і Літву». Калі гэта так, то Закрэўскаму лепш бы пісаць не нейкія там ліпавыя разаблачэнні, а сур'ёзную дысертацыю. Мы асабіста ўпершыню даведаліся, дзякуючы Закрэўскаму, што Беларусь, Украіна і Літва — гэта «крэсы ўсходнія». У другой Рэчы Паспалітай «крэсамі ўсходнімі» называлі землі на ўсход ад ракі Буг, якія ўваходзілі ў яе склад. Але што Беларусь, Украіна і Літва **цалкам** з'яўляюцца крэсамі ўсходнімі,— гэта адкрыццё Закрэўскага.

Яшчэ адно «разаблачэнне»: «Некаторых слухачоў курсаў пасяляюць на кватэрах у былых акаўцаў, сярод якіх шмат ураджэнцаў Віленшчыны, Міншчыны, Гродзеншчыны ды іншых раёнаў Беларусі». А чаму нельга пажыць на кватэры ў свайго земляка, расказаць яму, як «радасна і шчасліва» жылі людзі ўсе гэтыя гады пасля таго, як выгналі яго і многія тысячы яму падобных з іх родных мясцін? Як буйна расцвіла на нашых землях культура, асабліва пасля таго,як замест разбураных палацаў і храмаў навакол ўпрыгожылі велічныя кароўнікі, свінакомплексы, смертаносныя хімічныя гіганты? Але гэта ўжо іншая тэма для размовы.

Асабліва многа прэтэнзій мае Закрэўскі да кіраўніка польскага таварыства ў Брэсце Міхала Дабрыніна. Вось пачытайце! Гэты ж Дабрынін: «...пацікавіўся жыццём мясцовых беларусаў, і цяпер на сустрэчы падрабязна пачаў пералічваць, што маюць беларусы ў Польшчы і чаго не маюць палякі на Беларусі». Ну і як? Можа, што перайначыў, з'ілгаў, ачарніў? Не, такіх фактаў Закрэўскі не прыводзіць. ён разумее, што гэта якраз такі выпадак, калі, гаворачы словамі грыбаедаўскага героя, праўда «хуже всякой лжи». Вось калі б Дабрынін крыху схлусіў, намаляваў карціны райскага жыцця палякаў у Беларусі,— тады можна было б яго і пахваліць. Мы ж за мінулыя дзесяцігоддзі прывыклі хваліць тых, хто больш хлусіць!

Альбо вось яшчэ: «Ён шмат чытае аб Беларусі, цікавіцца беларускім нацыянальным рухам». Прыходзіць да высновы, што «беларуская нацыянальная свядомасць не пашыраецца, што вучыць мову, размаўляць па-беларуску ў Бярэсці ніхто не хоча». Шаноўная рэдакцыя, ці гэта дрэнна, што жыхар Беларусі, няхай сабе і паляк, «шмат чытае аб Беларусі, цікавіцца беларускім нацыянальным рухам»?! Ці гэта не праўда, што працэс беларусізацыі ў Беларусі ідзе збыт марудна?! Дабрыніну можна не верыць, але прыблізна тое ж самае не так даўно сцвярджаў Васіль Быкаў, размова з якім была надрукавана на старонках Вашай газеты. Навошта Дабрыніна пінаць нагамі?!

Праўда, Закрэўскі мае супраць Дабрыніна яшчэ адзін доказ. Апошні нібыта выказаўся: «Беларусы — гэта, канешне, быдла». Шаноўная рэдакцыя, Саюз палякаў Беларусі публічна асудзіць кожнага, хто лічыць беларусаў, альбо кожную іншую нацыю, і ўвогуле людзей, быдлам. Дабрыніна таксама, але толькі ў тым выпадку, калі гэта не хлусня з боку Закрэўскага. Людзей быдлам можа называць толькі быдляк! Але таксама толькі

**22 лютага ў нашай газеце былі надрукаваны нататкі Ю. Закрэўскага «Па той бок «крэсаў». Агляд чытацкай пошты з нагоды публікацыі змешчаны ў «ЛіМе» за 19 красавіка. Там жа — ліст прыгаданага ў нататках старшыні брэсцкага аддзялення Саюза палякаў у Беларусі М. Дабрыніна і адказ на гэты ліст Ю. Закрэўскага. 24 мая ў публікацыі «...І завецца яна Беларуссю» цытаваўся калектыўны ліст членаў праўлення брэсцкага аддзялення СПБ у абарону свайго старшыні.**

**Далей — болей. Сёння мы прапануем чытачам ліст ужо ад рэспубліканскага праўлення Саюза палякаў Беларусі (пра ўяўленні аўтараў аб інтэлігентнасці і спосабах вядзення палемікі няхай мяркуе чытач). Відаць, засталося пачакаць ліст з Масквы, дзе месціцца саюзнае праўленне СП, ці з Варшавы...**

**Друкуем таксама развагі пісьменніка Генрыха Далідовіча — своеасаблівы каментарый да сярдзітага ліста.**

# Ісці новым шляхам

Калі прачытаў гэты ліст, маім найхутчэйшым эмацыянальным усплёскам было жаданне рашуча ўхіліцца ад усякіх каментарыяў. Па-першае, мяне зусім не задавальняе ўзровень гаворкі пра вельмі важную справу, наўмысная альбо міжвольная спроба ўцягнуць у нейкія надта ж дробязныя дэбаты, па-другое, была і ёсць патрэба пра многія рэчы гаварыць адкрыта (а гэта, як ужо ведаю, азначае не толькі пахвалу, але і свядомы выклік агню на сябе).

Яшчэ раз, заглушаючы ўсякія эмоцыі і сам сябе заклікаючы да развагі, сеў і перачытаў дасланы ў «ЛіМ» ліст. У выніку зразумеў: не, не мне быць нейкім своеасаблівым трацейскім суддзёю, але я, мабыць, не маю права маўчаць, хітраваць, літаральна павінен сказаць сваю думку пра тое, што хвалявала, зводзіла і разводзіла шмат пакаленняў да мяне, што хвалюе, зводзіць і разводзіць многіх і цяпер. Адпаведна, як кажуць, зусім пры цвярозым розуме вырашыў узяць слова.

Я нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янковічы (па шыльдах: Янкавічы) Стаўбцоўскага раёна, дзе амаль усе карэнныя насельнікі «лічацца палякамі» (узяты ў двукроп'е выраз сёння адных радуе, а іншых літаральна выбівае з раўнавагі); у бацькавым, у сестрыных і братавых, у маім пашпарце таксама запісана: мы—палякі.

Не буду таіцца, сваёй польскасцю я зацікавіўся даўно — бадай, яшчэ да школы. Справа ў тым, што мая маці-нябожчыца была шчырая і адданая каталічка (бацька, хоць, як і маці, нарадзіўся пасля 1921 года, спачатку, пасля вайны, не бачыў свету з-за кузні, потым, як паўпралетарскі элемент, спрыяў усталёўваць у нашай заходняй вёсцы калгасны лад, яшчэ пазней стаў членам КПСС — зразумела, быў стрыманы для праяўлення набожнасці),— дык вось, маці змалку рыхтавала мяне, старэйшае дзіця ў сям'і, да першай споведзі. Думаю, католікам (палякам на Беларусі таксама) няма ніякай патрэбы шмат тлумачыць, што гэта такое — першая споведзь для дзіцяці ў каталіцкім асяроддзі. Тут не толькі адмысловы святы рытуал, але і падрыхтоўка да сур'ёзнага экзамена, новае адзенне, сам экзамен, першае прычасце і далучэнне да нейкага іншага свету, а да ўсяго гэтага — трывога і радасць бацькоў, каб іхняга нашчадка пахваліў ксёндз, самы, як усе лічаць, набожны, сур'ёзны, духоўны... не, не чалавек, а паўбог...

Паколькі мая маці закончыла ў трыццатыя гады ва ўмовах Заходняй Беларусі чатыры класы польскай школы (нават урокі беларускай мовы тады былі забароненыя, для чаго загадзя, яшчэ ў 20-ыя гады, настаўнікаў-беларусаў падвучвалі на курсах і сплаўлялі ў цэнтральную Польшчу, а да нас прысылалі выкладчыкаў адтуль (узяць бы прыклад з родным братам Алеся Пальчэўскага, паколькі і пасля вайны ксёндз у Дзераўнянскім касцёле вёў набажэнства толькі па-польску, урэшце паколькі, выбачайце, літаратура — Pamiątka pierwszej komunii swiętej — была таксама па-польску, я, зразумела, змушаны быў рыхтавацца да вышэйзгаданага па-польску.

Пазней я не мог не заўважыць: ксёндз і ўсё ў касцёле — па-польску, прыезджае, а пасля паступова і сваё раённае ды тутэйшае начальства — толькі па-руску, а ўсе нашы вясковыя насельнікі — заўсёды «па-простаму». Ужо толькі ў школе я зразумеў: што гэтая наша «простая» янкоўская гаворка ёсць сапраўдная беларуская мова, мова карэннай і досыць прасторнай па землях нацыі, што, як потым даведаўся на ўроках геаграфіі, з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей амаль роўная Бельгіі, Нідэрландам, Даніі і Ісландыі, разам узятым. Праўда, той абачлівы настаўнік тут жа дадаваў: мы павінны быць толькі з СССР, без СССР мы прападзём. Як чулі і чыталі, прыкладна вось так перасцерагалі наш люд перад нядаўнім рэферэндумам многія нашы зацугляныя альбо хлуслівыя ідэолагі ды прапагандысты — бачыце, тыя ж самастойныя Бельгія, Нідэрланды, Данія і Ісландыя могуць развівацца, квітнець паасобку, але мы не можам... Мы павінны менш дбаць пра сябе, мы мусім болей клапаціцца пра іншае і пра іншых...

Зразумела, у старэйшых класах (калі пачаў пісаць заметкі ў раённыя газеты: спачатку—у «Ивенецкую правду», пазней — у стаўбцоўскі «Прамень», а яшчэ пазней — апавяданні ў мінскія часопісы) я не мог як юнак альбо творца-саматужнік не задумацца: хто ж я? Адкуль? Для каго і дзеля чаго жыву? Што і як рабіць мне далей?

Само па сабе зразумела, мне тады не хапіла ні вопыту, ні ведаў адказаць на гэтае простае, але і ў той жа час вельмі складанае для кожнага чалавека пытанне. Мяне ўгаворвалі пайсці вучыцца на агранома (дырэктар саўгаса, якому я нямала ўеўся сваімі крытычнымі заметкамі, літаральна змушаў мяне быць пасля дзесяцігодкі мясцовым брыгадзірам), але я выбраў для сябе іншы шлях — беларускае аддзяленне філфака Белдзяржуніверсітэта. Там, слухаючы лекцыі па беларускім фальклоры, курс лекцый па беларускай старажытнай мове і літаратуры, па іншых мовах і літаратурах, у тым ліку і польскай, я пачаў разумець тое-сёе: што такое беларуская мова і культура, што такое культура нашых суседзяў, іншых, далейшых ад нас, народаў.

Студэнтам, а пазней і настаўнікам ды маладым літаратарам я правёў нязмушанае (на сенакосе, на вясковай лаўцы, а то і за кілішкам на вяселлі) пэўнае даследаванне ў сваёй вёсцы: якія ж вы палякі, мае аднавяскоўцы? У каго з вас родзічы — этнічныя палякі, хто мо сам пераехаў сюды да нас? Паверце, ніхто з шаноўных сівых бабуль і дзядуляў не мог гэтага ўспомніць, усе казалі, што іхняя радня справедку жыла тут, але прыезджыя, з Польшчы, у нашай вёсцы былі — скажам, з 1921 года па 1939-ты: настаўнікі, службоўцы з гмінай адміністрацыі і, здаецца, асаднік — ветэран савецка-польскай вайны, які за баявую паслугу «начэльніку паньства» атрымаў тут кавал зямлі. Іх, зразумела, у 1939 вывезлі. Як чуў, іншыя палякі ў іншых вёсках і мястэчках выехалі самі — ці тады ж, у тым 1939, ці адразу пасля вайны. У нас пра іх гаварылі так: «Паехалі да маткі».

Старыя людзі кажуць, што да вайны ў нашых Янковічах разам з іхнімі хутарамі было недзе каля 120 двароў. У вайну іх спалілі, а люд немцы вывезлі ў Германію. Цяпер, у аднаўленай вёсцы, недзе двароў пад 65. Многія сем'і, баючыся сталінскага гневу і калгасаў, яшчэ тады, у 1945 годзе, падаліся з Германіі ў Польшчу, у Англію, у ЗША, у Аўстралію, а таксама многія сем'і, хто лічыў сябе палякам, а заадно хацеў болей зямлі і іншых парадкаў, пакінулі вёску ў хрушчоўскую адлігу. Сярод тых, хто эмігрыраваў,— бацькавая маці, сястра і тры яго браты, а таксама два матчыныя браты.

**З тымі, хто застаўся ў нашых Янковічах, у мяне часта былі прыкладна такія гаворкі:**

**«Дык хто ж вы, дзед (бабуля)?»**
**«Як — хто? Людзі».**
**«Рускія?»**
**«Не».**
**«Палякі?»**
**«Ага».**
**«Але ж вы самі кажаце: не ведаеце, каб хто з вашых далёкіх прашчураў быў паляк. Дык чаму адносіце сябе да іх?»**
**«Запісалі так — дык і лічу».**

быдляк можа бяздоказна распаўсюджваць слухі з мэтай зняславіць чалавека, прыпісваючы яму быдлячую свядомасць. Раней за такое абвінавачванне выклікалі на дуэль, білі ў морду (прабачце за нязбыт інтэлігентнае слова), цяпер жа ў падобных выпадках слова за судом. Мы мяркуем, што Дабрынін так і зробіць, гэта значыць падасць у суд, а суд разбярэцца: гаварыў Дабрынін гэта, ці Закрэўскі — звыклы паклёпнік. Калі Дабрынін гаварыў — мы яго асудзім. Калі ж суд прызнае абвінавачванне Закрэўскага непацверджаным, тады слова будзе за Вамі. Мы спадзяёмся, што рэдакцыя знойдзе належны выхад з такой далікатнай сітуацыі.

Але калі Дабрынін можа спрабаваць абараніцца ад абвінавачванняў з дапамогай суда, то іншыя слухачы курсаў польскай мовы, якіх Закрэўскі аблівае граззю ў сваёй публікацыі, гэтага зрабіць не змогуць. Ніхто з іх канкрэтна не названы. Усе астатнія характарызуюцца агульна і аднаназначна. Вось так: «Гэта людзі пераважна сярэдняга веку з сярэдняй тэхнічнай адукацыяй **і нізкім культурным узроўнем... Маюць нейкую польскую нацыянальную свядомасць, але вельмі невыразную, нейкую мяшанку...** размаўляюць па-расейску **«з прыпшэкваннем»**. Ёсць беларусы і праваслаўнай традыцыі, але ўсе яны атэісты і абсалютна індыферэнтныя нацыянальна (нават не разумеюць часта, аб чым ідзе гаворка і што такое нацыянальная свядомасць). Гэтыя часта нават **не кемяць ані слова** па-польску і толькі робяць выгляд, што разумеюць палякаў... большасць беларускіх палякаў абсалютна не ведае ані беларускай гісторыі і культуры, ні польскай». Канец цытаты. (Падкрэслена намі).

**Шаноўная рэдакцыя! Давайце пачнём з апошняга сцвярджэння. Хто вінаваты, што большасць беларускіх палякаў абсалютна не ведае ані беларускай гісторыі і культуры, ані польскай? Гэта ж толькі рэзультат той сістэмы выхавання, якая панавала ў нашых школах на працягу апошняга паўстагоддзя і пануе дагэтуль. Але давайце паставім пытанне крыху інакш: «Ці большасць беларускіх беларусаў дасканала ведае сваю гісторыю і культуру (а нават родную мову)?! Навошта ж абражаць беларускіх палякаў?! Дазвольце нарэшце звярнуць увагу, што сапраўды культурны чалавек ніколі сабе не дазволіць крычаць на ўсю Іванаўскую аб «нізкім культурным узроўні» сваіх нядаўніх сяброў, бо гэтым самым можна выявіць толькі сапраўдны ўзровень асабістай культуры. Нам было б цікава ведаць пазіцыю шаноўнай рэдакцыі наконт культурнасці і дапушчальнасці ўжывання ў адносінах да канкрэтных асоб суайчыннікаў такіх выразаў, як «з прыпшэкваннем», «не кемяць ані слова», «робяць выгляд, што разумеюць», «нацыянальная свядомасць», «мяшанка» і г.д. Што датычыць Закрэўскага, то ён свой культурны ўзровень пацвердзіў у апублікаваным адказе на ліст М. Дабрыніна, выносячы ў загаловак словы: «Ніхто не хацеў зневажаць»... («Літаратура і мастацтва», 19 красавіка 1991 г.). Калі вышэйцытаваныя выразы не з'яўляюцца зневажальнымі, то што тут можна сказаць: хіба толькі ўсім вядомыя, хаця, можа, і не ўсімі асэнсоўваемыя словы: «Божа, даруй ім, бо яны не ведаюць, што чыняць!»**

**Дзіўная логіка ў спадара Закрэўскага і ягоных аднадумцаў: «невыразная» нацыянальная свядомасць беларускіх палякаў, на іх думку, даводзіць, што гэта не палякі, а беларусы, а вось невыразная нацыянальная свядомасць многіх беларусаў чамусьці не сведчыць аб тым, што яны не беларусы. Па гэтай жа логіцы разглядаюцца пытанні роднай мовы, веданне гісторыі, культуры і г.д.**

**Відавочна, што сярод палякаў, як і сярод беларусаў і людзей другіх нацый, ёсць людзі з розным узроўнем культуры. Бадай, важнейшым сярод прызнакаў культурнасці з'яўляецца скромнасць. Культурны чалавек ніколі не будзе ні ў адносінах да сваіх суайчыннікаў, ні ў адносінах да іншых людзей выстаўляць на паказ сваю культурнасць і грамагалосна аб'яўляць другіх некультурнымі, або з нізкім узроўнем культуры. Калі нехта гаворыць ці робіць нешта недарэчнае і разам з тым сацыяльна значымае, напрыклад, як піша Закрэўскі, «не могуць вырасці са штонікаў сярэднявечных тэрытарыяльных амбіцый (Польшча ад мора да мора)», то трэба паказаць, у чым недарэчнасць, а можа, і шкоднасць іх мар і дзеянняў. Але крытыка ў гэтым выпадку павінна быць канкрэтнай. Хто, у якім выданні, у якім сэнсе гэта сказаў?! Кідаць беспадстаўныя аглупляючыя абвінавачванні, моўчкі тыкаючы пальцам у адрас народа, які першым у Еўропе перагарадзіў дарогу фашысцкай навале, а затым першым у выніку працяглай барацьбы вызваліўся ад панавання таталітарнай сістэмы — гэта яўна нягодны сродак ідэйнай барацьбы. Мы перакананы, што для Беларусі больш небяспекі нясе ў сабе не гэтая, абсалютна гратэскная і абсалютна нерэальная канцэпцыя («Польшча ад мора да мора» — дарэчы, Закрэўскі ў сваёй першай публікацыі сцвярджаў, што «ў стратэгічных планах палякаў» на вяртанне Львова, як бы таго ні хацелася, нават і разлічваць дарэмна», затым ён чамусьці змяніў кірунак атакі), а лянсаваная некаторымі кандыдатамі ў будучыя дзяржаўныя дзеячы, ды і некаторымі сучаснымі дзеячамі Беларусі канцэпцыя тэрытарыяльных прэтэнзій на Беласточчыну, Віленшчыну, Смаленшчыну і г.д. (Гл. Ю. М. Островский. Белорусы: генетика, религия, национальность, «Гродненская правда», 7 марта 1991 г.). Справа даходзіць да таго, што ідэя «дружбы народаў» аб'яўляецца Закрэўскім «няўцямным лозунгам».**

Шаноўная рэдакцыя! Калі сэнс дружбы народаў Закрэўскаму і ягоным аднадумцам не здолеюць вытлумачыць, як ён цвердзіць, «усе разам узятыя філосафы-інтэрнацыяналісты», то мы спрабуем зрабіць гэта іншым метадам. Дружба народаў—гэта нешта процілеглае нацыянальнай варожасці, нацыянальным канфліктам. Сутнасць апошніх вельмі наглядна дэманструюць падзеі ў Паўднёвай Асецііі, Нагорным Карабаху, Ліване, Паўночнай Ірландыі, Паўднёвай Афрыцы і г. д. Дык вось, **мы адназначна выступаем у падтрымку** няўцямнага для Закрэўскага **лозунга «дружбы народаў», супраць раздування і нагнятання нацыянальнай варожасці паміж беларусамі і суседнімі народамі, паміж, беларусамі і палякамі асабліва.**

Не можам не выказаць сваіх меркаванняў наконт адной тэарэтычнай выкладкі П. Васілеўскага з ягонай публікацыі «Молімся польскому богу», або «Па гэты бок «крэсаў». Вось каму мора па калена! Праўда, ён папярэджвае свайго апанента Ляўданскага, што той можа крыўдзіцца. Але на Васілеўскага нельга крыўдзіцца ні Ляўданскаму, ні нам, ні ўвогуле, ён належыць да той катэгорыі людзей, на якіх крыўдзіцца проста грэх. Давайце разам пачытаем: «...адносна нацыянальнай і культурнай прыналежнасці Адама Міцкевіча. Вялікі пясняр з Наваградка беларус не толькі таму, што нарадзіўся на Беларусі і род ягоны мае беларускія этнічныя і культурныя карані. Міцкевіч, які да скону захаваў любоў да беларускай зямлі ... **належыць Беларусі нават сваёю моваю, некаторыя лічаць, што няправільна лічыць яе польскаю, гэта хутчэй адзін з дыялектаў мовы беларускай.** Мова, якая была ў Польшчы ў часы Міцкевіча, шмат у чым адрозніваецца ад той, якой карыстаўся паэт. Дарэчы, ніхто пакуль што добра не шукаў вершаў Адама Міцкевіча, пісаных чыста беларускай моваю. Нагадаю яшчэ, што прозвішча з канчаткам на «іч» (Міцкевіч), а таксама на «і» (Ляўданскі)—тыпова беларуская з'ява. І ў Польшчы з'явіліся толькі пасля уніі старажытнабеларускай дзяржавы—Вялікага княства Літоўскага з Польскай каронай».

Вось бачыце! Усё як у Юлія Цэзара: «Прыйшоў, убачыў, перамог!» Усё вельмі проста! Прозвішча на «іч» і «і»—значыць беларус! Выходзіць: Сапега, Радзівіл, Пацей, Пац—гэта не беларускія прозвішчы, а вось Любамірскі, Зэбжыдоўскі, Замойскі, Жулкеўскі, Пілсудскі (як і Ляўданскі)—гэта беларускія прозвішчы, а значыць тыя, хто іх насіў і носіць, таксама беларусы?! Як гавораць у Беларусі: хоць стой—хоць падай. Нічога разумнага ў сувязі з такімі тэарэтычнымі абгрунтаваннямі сказаць нельга. Альбо яшчэ: мова Міцкевіча—«адзін з дыялектаў мовы беларускай», паколькі «мова, якая была ў Польшчы ў часы Міцкевіча, шмат у чым адрозніваецца ад той, якой карыстаўся паэт». Раім Васілеўскаму на гэтым не супыняцца, а аб'явіць, аналагічна, што паколькі мова, якая была ў Расеі ў часы Пушкіна, шмат у чым адрозніваецца ад той, якой карыстаўся паэт, то мова Пушкіна—гэта таксама адзін з дыялектаў мовы беларускай.

Наконт беларускіх вершаў Адама Міцкевіча мы таксама нічога не ведаем. Ніхто нікому не забараняе іх шукаць. Польскіх твораў Міцкевіча шукаць не трэба, ён іх ні ад каго не хаваў.

Шаноўная рэдакцыя! Кіраўніцтва мнагатысячнага Саюза палякаў Беларусі выказвае шчырую надзею, што на старонках Вашага выдання знойдзецца месца для таго, каб пазнаёміць чытача з нашым пунктам гледжання на справы вышэйабмеркаваныя. Мы з Вамі стаім па адну старану барыкад у барацьбе за адраджэнне і галоснасць. І гэта дае нам права спадзявацца, што Вы са зразуменнем падыдзеце да справы. Крытыкуйце нас, калі ласка (канструкцыйная крытыка яшчэ нікому не пашкодзіла), але дазвольце і нам сказаць сваё слова. Аднабокая галоснасць, як гэта добра вядома і Вам і нам—гэта не галоснасць.

**Т. ГАВІН**, старшыня праўлення Саюза палякаў Беларусі, ваеннаслужачы; члены праўлення Саюза палякаў Беларусі: **А. ПАУЛОУСКІ**, намеснік старшыні СПБ, намеснік старшыні Гродзенскага аблаграпрома, народны дэпутат БССР; **Б. ФУСТАЧЭНКА**, намеснік старшыні СПБ, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута біяхіміі АН БССР; **Р. КАЦЫНЭЛЬ**, намеснік старшыні СПБ, галоўны інжынер Інстытута «Гроднаграмадзянпраект»; **С. СЯНКЕВІЧ**, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута біяхіміі АН БССР; **Р. ВІЛЬЧЭУСКІ**, старшыня Гродзенскага гарадскога аддзялення СПБ.

---

**«Калі запісалі?»**

**«Пасля таго, калі палякі і Саветы замірыліся ў Рызе, калі да нас сюды прыехалі з Варшавы асэсары і сказалі: вы — палякі... Хто адразу запісваўся — больш зямлі давалі, а ксёндз яшчэ па пуду, а то і два картофлі ці аўсу даваў, хто пераходзіў у каталікі...»**

**«Дык, па-вашаму, усе каталікі — палякі?»**

**«Ага».**

**«А праваслаўныя — рускія?»**

**«Ага».**

**«А беларусы?»**

**«А не ведаю, сынок».**

**«Дык мы і ёсць, дзед (бабуля), беларусы. Беларусы-каталікі. А ёсць беларусы-праваслаўныя».**

**«Не. Мы, калі не палякі, то тутэйшыя».**

**«Але ж нідзе няма такой нацыі: тутэйшыя».**

**«Можа, нідзе і няма, а ў нас вот ест».**

**Як мне не хочацца пра такое пісаць, а камусьці гэтае чытаць, але... з песні слова не выкінеш: у многіх, у вельмі многіх, нават няблага адукаваных, землякоў вось такая нацыянальная свядомасць, вось такі духоўны кругагляд! Многім надта хочацца быць кімсьці, абы не самім сабою! Цвіком, мусіць, засела спрадвеку ў людскіх галовах: калі ты сам сабою, дык ты «мужык», «хлоп», а вось калі адрачэшся ад свайго, далучышся да іншага, то ты ўжо калі не «господин», не «пан», дык хоць Чалавек!!!**

У свой час, не знайшоўшы ні ў сваёй радні, ні ў каго-небудзь у вёсцы польскіх каранёў, я звярнуўся да тагачаснага Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР таварыша Палякова з хадайніцтвам: я нарадзіўся ў Беларусі, скончыў беларускую школу, думаю і пішу па-беларуску, дык хачу, каб у маім пашпарце было па-законнаму запісана, што я беларус. Па тэлефоне адзін са службоўцаў гэтага апарату адказаў мне, што разумеюць мяне, але, на вялікі жаль,не могуць задаволіць маю просьбу: маўляў, ёсць нейкая ўсесаюзная пастанова, што не дазваляе мяняць нацыянальнасць. Нават у маім выпадку... Мала сказаць, што тут абсурд, тут ужо адмысловая, хутчэй за ўсё каварная палітыка! Навідавоку вышэйшая зацікаўленасць, каб і ў нас, у Беларусі, захоўваўся нацыянальны «вопрос»!

Адна з маіх стрыечных сясцёр, якая ў свой час хадзіла разам са мной у Янкоўскую пачатковую школу, а цяпер жыве ў адным з польскіх гарадкоў, па прафесіі гісторык. Недзе гадоў дзесяць таму, калі ў Польшчы набірала сілу «Салідарнасць», мы, ужо даволі сталыя людзі, сустрэліся тут, у нас. Дык вось, мая родзічка на поўным сур'ёзе, нават са злосцю, што я такі, даказвала мне, што Беларусь — выдумка Масквы, каб адарваць гэты край (крэсы) ад Польшчы. Самае вялікае, на што яна згаджалася, гэта на тое, што была некалі такая невялікая дзяржава, як Літва, але ўжо Рэч Паспалітая — гэта толькі суцэльная Польшча, няма ніякай гутаркі пра тое, што там тая ж Літва, а тым больш Беларусь мелі нейкую самастойнасць.

У сувязі з вышэйзгаданым я заўважыў адну рэч. Некаторыя карэнныя палякі (вучоныя, літаратары) досыць спакойна прызнаюць, што Рэч Паспалітая была федэратыўная дзяржава, прызнаюць літоўцаў і беларусаў як самабытныя нацыі, што мелі сваю дзяржаўнасць, а вось апалячаныя нашы землякі часамі аж ужо хваравіта хочуць быць больш чым палякамі, і ў гэтым жаданні бываюць залішне аслепленыя, зусім не зважаючы на гістарычныя факты і дакументы, здольныя абражаць не толькі чалавека, але і цэлы народ.

Спрэчкі гэтыя, спрэчкі славянскія не новыя. Як вядома, пры кожным рэвалюцыйным узрыве, бадай, найперш абуджаецца нацыянальны рух. Успомнім, так было на пачатку гэтага стагоддзя (тады, як казалі, нават далёкі ад палітыкі Янка Купала не вытрымліваў, ішоў на сутычку з апанентамі не толькі з вершамі, але і з артыкуламі, скажам, з такімі, як «А ўсё ж такі мы жывем», «Вера і нацыянальнасць»), а ў 1917—1919 гады ўсё ўвогуле забурліла, як у катле з варам. Як бачым, абвастрылася нацыянальнае пытанне і цяпер, у часы гарбачоўскай перабудовы. У прыватнасці, у нас, на Беларусі, ва ўсёй паўнаце паўстала праблема беларускага адраджэння, узніклі рэгіянальныя польскія настроі, рушыў у наступ вялікарускі дух.

Зусім невыпадкова, як пісалася нядаўна ў друку, ужо нават ЦК КПБ, які дзесяцігоддзямі настойліва праводзіў русіфікатарскую палітыку, вырашыў нарэшце звярнуць большую ўвагу на нацыянальнае пытанне ў рэспубліцы, паспрыяць рэалізацыі Закона БССР «Аб мовах у Беларускай ССР». Адпаведна, ёсць спадзяванне, што да гэтай няпростай, вельмі далікатнай справы неўзабаве можа далучыцца вялікі атрад кіруючых таварышаў, камуністаў — адной з асноўных нашых палітычных сіл.

У гэтай сітуацыі надзвычай важна ўсім знайсці адну мову. У прамым і ў пераносным значэнні. Безумоўна, усе мы, жыхары Беларусі любой нацыянальнасці, будзем і далей шырока карыстацца рускай мовай, нам нават трэба ўдасканальваць валоданне ёю, але ў той жа час усім нам трэба нарэшце праявіць высокую свядомасць, праламаць адчужэнне і ўсімі магчымымі сродкамі падняць беларускую мову да ўзроўню мовы агульнарэспубліканскай. Значыць, усім нам у суверэннай Беларусі трэба належна авалодаць беларускай мовай, актыўней далучацца ствараць яе сродкамі духоўныя каштоўнасці. Калі справа пойдзе іменна ў такім накірунку, то тады не будзе ніякіх моўных бар'ераў, непаразуменняў і ўшчамлення правоў — тым больш, што рускамоўным зрабіць гэта не вельмі цяжка. У выніку пачнуць развязвацца застарэлыя і зацвярдзелыя вузлы, мацнець сапраўдная ўзаемапавага, ніхто не будзе адчуваць сябе ў рэспубліцы ні вышэйшым, ні ніжэйшым. Зразумела, напачатку ў таго-сяго будуць пэўныя нязручнасці, але трэба свядома пайсці ім насустрач, каб належна ўсталяваць дэмакратычную і прававую рэспубліку.

У гэтых умовах немагчыма не паклапаціцца пра прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей. Калі ўжо толькі, скажам, кіраўнікі Саюза палякаў, Саюза літоўцаў, Саюза яўрэяў альбо іншага якога-небудзь саюза зажадаюць вывучаць родную мову і культуру, карыстацца імі, то іх трэба абавязкова падтрымаць. Трэба ў разуменні і згодзе знайсці адпаведныя формы, сродкі, каб усе, хто жадае, маглі праяўляць тое, што дорага іхняй душы. Але, зразумела, неабходна быць гібкім, не ўзбуджаць узаемны недавер, не даваць волю эмоцыям і амбіцыям. Да слова, навошта нам, палякам, «тым, хто лічыцца палякам», беларусам, спрачацца, каму належыць паэт Адам Міцкевіч альбо хто можа ганарыцца іншымі паэтамі, мастакамі, вучонымі, палітычнымі дзеячамі, якія жылі на нашых землях, выхоўваліся на нашых культурах? Ды яны належаць не толькі нам, яны, як той жа Адам Міцкевіч, яшчэ пры сваім жыцці ўжо належалі ўсяму свету! Імі ганарымся не толькі мы адны!

Што да Саюза палякаў у Гродне, у Брэсце, то асабіста я адчуваю: той-сёй па-сапраўднаму дбае пра духоўныя запатрабаванні, а той-сёй, на жаль, праследуе пэўныя палітычныя мэты, наўмысна ўтварае ў нас «польскі Нагорны Карабах», а заадно падыгрывае тым, хто не жадае паўнакроўнага адраджэння беларускай нацыі. Сваё гэтае адчуванне я выводжу з асабістых назіранняў, а таксама з леташняга аднаго выпадку. Летась асабіста да мяне звярнуўся па тэлефоне адзін таварыш. каб я паспрыяў умацаванню дзейнасці Саюза палякаў на Беларусі. Калі я сказаў, што гэты саюз, паколькі ён разгортвае дзейнасць у Беларусі, павінен найперш акцэнтаваць увагу на вывучэнне беларускай гісторыі, мовы і культуры, каб не быць тут чужародным асяродкам, а пасля ўжо ўсяго польскага, то таварыш паабяцаў дакласці маю думку свайму кіраўніцтву. Не ведаю, ці даклаў, але пасля гэтага мне больш званкоў няма...

На заканчэнне хочацца звярнуцца да аўтараў ліста асабіста: сябры, давайце не драбязіць, не дзейнічаць па прынцыпе «а вось гэты на нас пальцам паказаў», давайце нялёгкія, нават спрэчныя пытанні вырашаць спакойна, разважліва, з карысцю для ўсіх. Палякі і беларусы, польскія і беларускія вучоныя, дзеячы культуры ва ўсе, нават самыя нялёгкія, часы заўсёды разумелі адно аднаго, супрацоўнічалі, падтрымлівалі. На шчасце, працягваецца гэта і ў нашы дні. Вы, думаецца, добра ведаеце, колькі і чаго зрабілі, робяць для прапаганды польскай культуры Максім Танк, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, Адам Мальдзіс, Алег Лойка і іншыя, якія паказваюць узор таго, як ладзіць трывалыя масты супрацоўніцтва і сяброўства.

Бясспрэчна, вельмі надзённыя наступныя радкі выдатнага дзеяча беларускага народа Якуба Коласа, які адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны зазіраў далёка ў будучыню:

**Мае браты, мае суседзі,**
**Свабодны, новы польскі люд!**
**Няхай жа песняй звонкай медзі**
**Красуе наша дружба тут!**
**Няхай жа стане тленню, прахам**
**Жыцця мінулага ярмо!**
**Мы пойдзем далей новым шляхам,**
**Друг другу руку падамо!**
**Сустрэнем дружна дзень наш новы,**
**У мірны рушымся паход.**
**Няхай не будзе больш згрызот**
**І змоўкнуць непрыязні словы!**

**Генрых ДАЛІДОВІЧ.**

# ВЯРНУЦЬ САЛДАТУ ІМЯ

**У апошні час у Мінску зарэгістраваны шэраг грамадскіх аб'яднанняў. Сярод іх — гісторыка-пошукавае аб'яднанне «Белая Русь». Наш спецыяльны карэспандэнт сустрэўся са старшынёй рады гэтага аб'яднання капітанам запасу В. А. ЛУНЁВЫМ. Вось што ён расказаў:**

— Члены нашага аб'яднання лічаць сваім абавязкам вярнуць з небыцця імёны загінуўшых на Беларусі, зняць з іх пляму «без вестак прапаўшых».

Так атрымалася, што адзін з галоўных напрамкаў ваенных дзеянняў, якім з'яўляўся Мінска—Смаленска—Маскоўскі, чамусьці «выпаў» з поля зроку гісторыкаў, якія даследавалі Вялікую Айчынную вайну, а таксама пісьменнікаў і кінематаграфістаў. Складваецца ўражанне, быццам вайна ў 1941 годзе палыхала толькі ля сцен Севастопаля, Адэсы, Ленінграда ды на падыходах да Масквы. А тут, на нашай зямлі, ішлі, маўляў, «баі мясцовага значэння».

Гераічная абарона Брэсцкай цытадэлі, бадай, ледзь не адзіны шырока вядомы факт з перыяду чэрвеня-ліпеня 1941 у нашай рэспубліцы. Пра іншыя падзеі на працягу ўсяго пасляваеннага часу чамусьці маўчалі. Нядаўна прачытаў у артыкуле акадэміка Якаўлева «Вялікая Айчынная вайна 1941-1945 гг.», што, аказваецца, ля сцен Мінска, а дакладней, у раёне паміж Маладзечнам, Лідай, Стоўбцамі (з цэнтрам у Налібоцкай пушчы) моцныя баявыя дзеянні вяліся аж да 9 ліпеня. Уявіце сабе, цэлыя два тыдні ля сцен Мінска «топчуцца» 25 адборных танкава-механізаваных фашысцкіх дывізій групы армій «Цэнтр» з 50, якія павінны фарсіраваным парадкам ісці на Маскву.

Вось факты, узятыя з 9 нумара «Военно-исторического журнала» за 1989 год. На дваццатай старонцы гэтага часопіса надрукаваны дакументы Вермахта, якія тычацца баёў пад Мінскам.

Агульнавядома, што ўвечары 28 чэрвеня немцы ўварваліся ў горад з боку Балотнай станцыі і захапілі яго. Так сцвярджаюць нашы даследчыкі. Але ж нямецка-фашысцкае камандаванне лічыла Мінск узятым толькі... 9 ліпеня, бо толькі ў гэты дзень было падаўлена актыўнае супраціўленне разрозненых падраздзяленняў чатырох армій—3-й, 4-й, 10-й, 13-й. Штабісты з нямецкай педантычнасцю зафіксавалі ў сваіх дакументах: «28.6 выйшлі да Мінска. 28.6—4.7 — фарсіравалі раку Бярэзіну. 3—5.7—фарсіравалі Заходнюю Дзвіну на поўнач ад Віцебска. 3—10.7 — фарсіравалі Днепр, створаны плацдармы. 9.7—узяты Мінск».

Хіба гэта не пацвярджэнне таго, што нават праз пяцьдзесят гадоў пасля пачатку вайны мы маем не адну «белую пляму» ў яе гісторыі?

Хацелася больш даведацца аб гэтых самых «белых плямах». А калі пачаў корпацца ў дакументах, адкрыў для сябе— якая ж вялікая колькасць салдат засталася «без вестак прапаўшымі». Трэба выправіць гэту памылку, знайсці загінуўшых, аднавіць іх імёны. А гэта можна зрабіць толькі шляхам няспыннай пошукавай працы.

«Белая Русь» узнікла на базе пошукавага клуба «Каскад». Упершыню яна заявіла аб сабе ў мінулым годзе, у час першай Беларускай вахты Памяці. Члены аб'яднання, па заданні музея гісторыі войск Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, з дапамогай аквалангаў абследавалі ў пошуках ваеннай тэхнікі некалькі азёр. У мясцінах, дзе праводзілася вахта Памяці, у канцы 1943—пачатку 1944 гадоў была праведзена адна з аперацый па вызваленні беларускіх зямель. На лёдзе і заснежаных берагах возера Лосвіда і рэчкі Лучэса паляглі тысячы і тысячы нашых воінаў. Яны засталіся ляжаць там, дзе загінулі. Хавалі загінуўшых, вылоўліваючы іх з вады ды збіраючы на берагах рэчкі і возера, мясцовыя жыхары. Афіцыйныя ўлады не цікавіліся лёсам загінуўшых і іх родных ні тады, ні ў пасляваенны час.

Віцебскія пашукавікі ў адным з даследаваных імі пахаванняў знайшлі астанкі салдата з медалём «За адвагу». Па ім устанавілі прозвішча чырвонаармейца — Каласоўскі, і яго адрас. Можаце ўявіць, як удзячны пашукавікам былі родныя загінуўшага, для якіх шмат дзесяцігоддзяў ён лічыўся «без вестак прапаўшым».

Так, была вайна. Страшэнная вайна з велізарнымі стратамі, і не дзіўна, што на шматтысячакіламетровай яе прасторы загубіўся, кануў у нябыт просты салдат. Усё гэта так, але і не так. Нашы папярэднікі-пашукавікі, якія дзейнічалі пад лозунгам: «Ніхто не забыты і нішто не забыта», дапускалі адзін пралік: пры перазахаванні з адзіночных і брацкіх магіл астанкаў салдат абыякава адносіліся да пошукаў дакументаў, асабістых рэчаў, салдацкіх медальёнаў. Больш таго, даволі часта такія перазахаванні праводзіліся фармальна — пераносілі астанкі некалькіх чалавек, а большасць заставалася ляжаць у старой магіле. З падобнымі фактамі я сутыкнуўся летась на Другой усесаюзнай вахце Памяці пад Вязьмай. Нам паведамілі, што ў вёсцы Красная Татарка знаходзіцца старая брацкая магіла. Пачалі распытваць мясцовых жыхароў, каб даведацца, дзе яна. Тыя пачалі даводзіць, што ў шасцідзесятыя гады, калі праводзіліся перазахаванні, з забытых магіл да помніка перанеслі ўсіх пахаваных. Але адзін з жыхароў гаварыў, што сапраўднага перазахавання не было, што была паказуха. Давялося нам правесці раскопкі. І што ж? У гэтай «перанесенай» магіле былі знойдзены астанкі 24 чалавек, а сярод іх — некалькі медальёнаў. Няцяжка будзе даведацца прозвішчы загінуўшых і нумар іх часці, выйсці на Савет ветэранаў дывізіі, корпуса, арміі, дзе ваявалі гэтыя салдаты, даведацца адрасы іх родных. Так было ўжо неаднойчы.

Мы раскопваем магілы, якія не пазначаны ні на картах, ні ў архівах, ні ў паперах мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Яны, гэтыя магілы, «безыменныя». Зварот да такіх забытых захаванняў — не толькі неабходнасць, але і наш чалавечы абавязак.

Колькі разоў ужо бывала, што ў час будаўніцтва кароўніка, пры «асваенні» дачнага надзелу людзі знаходзілі безыменныя захаванні. Добра, калі аб гэтым паведамляюць у адпаведныя ўстановы. Часцей жа магілы зноў закопваюць, а то і наогул знішчаюць. А можа, і дагэтуль нехта чакае весткі пра загінуўшага сына, мужа, бацьку? Можа, пішуць яны паўсюль, каб даведацца, дзе ляжыць «без весткі прапаўшы» салдат?

Таму хочацца звярнуцца да ўсіх, хто можа выпадкова знайсці старую магілу — не спяшайцеся будаваць асабісты дабрабыт на людскіх касцях, паведаміце ў мясцовы ваенкамат, а яшчэ лепш— нам, у аб'яднанне «Белая Русь», і мы прыйдзем на дапамогу. І родныя вернутага з небыцця «без весткі прапаўшага» будуць вам удзячны. Прывяду адзін прыклад.

У кастрычніку мінулага года прыехаў дахаты ў Астрашыцкі Гарадок рабочы мінскага завода імя Леніна М. Стэфановіч. У сярэдзіне шасцідзесятых гадоў ён разам з аднакласнікамі пад кіраўніцтвам настаўнікаў І. Будая і І. Давідовіча вялі раскопкі на Янавай Горцы. Больш за сто загінуўшых было знойдзена імі ў старых магілах ды засыпаных акопах і каля 25 медальёнаў з імёнамі..

Дык вось, М. Стэфановіч прыкмеціў невялічкую западзінку ля дарогі. Ці варонка ад снарада тут была калісьці, ці акопчык індывідуальны? Прыхапіў з сабой рыдлёўку. І што ж — пачуццё не падвяло. Знайшоў астанкі салдата, знайшоў і медальён. Удалося прачытаць паперку з гэтага медальёна. І стала вядома, што ляжаў тут амаль паўвека жыхар размешчанай за 50 кіламетраў ад магілкі вёскі Дварэц Іван Латушка. Усяго за 50 кіламетраў — і амаль пяцьдзесят гадоў лічыўся ён «без вестак прапаўшым». А маглі ж знайсці астанкі Івана не летась, а ў сярэдзіне шасцідзесятых, калі праводзіліся пошукі на Янавай Горцы...

Мінулым летам мы вялі раскоп у г.п. Сосны (пад Мінскам) на месцы, дзе ў



паветраным баі быў збіты самалёт «Іл-2». Сярод абломкаў самалёта знайшлі бартавы журнал з запісамі, частку планшэта, а потым і астанкі двух лётчыкаў. Па знаходках устанавілі нумар самалёта, а потым і імёны лётчыкаў.

Самай жа першай сур'ёзнай работай аб'яднання «Белая Русь» стала перазахаванне летась астанкаў чырвонаармейцаў, загінуўшых у самым пачатку вайны пры абароне Мінска (загінулі яны на тэрыторыі Чырвонага Урочышча — зараз тут жылы пасёлак МАЗа).

Забытае пахаванне знайшлі пры правядзенні земляных работ. На месцы знаходкі я выехаў са сваімі паплечнікамі Карабейнікавым, Гарынавым, Канапліцкім. Акрамя астанкаў, адшукалі гадзіннік, два медальёны — адзін узору 1937 года, другі — 1941-га. Яны належалі Васілю Харчанку з горада Паўлаграда Днепрапятроўскай вобласці і Скавародку з Арэхава-Зуева.

Была знойдзена і яшчэ адна братняя магіла. Мы лічым, што ў ёй пахавана каля пяцісот чырвонаармейцаў, загінуўшых пры абароне Мінска. Звесткі аб гэтым былі знойдзены адным з першых беларускіх пашукавікоў — пісьменнікам М. Акаловічам. Шмат гадоў даследуе ён лёс салдат і афіцэраў 64-й і 108-й стралковых дывізій, што абаранялі Мінск у чэрвені 1941-га. З яго дапамогай спадзяёмся больш плённа працаваць у архівах. Гэта ж таксама пошукавая праца, не менш складаная, чым палявая, а часам нават больш важная, бо ў архівах можна знайсці тое, чаго не знойдзеш пры раскопках. З гадамі гінуць крохкія салдацкія «медальёны», і тым больш, дакументы. Для прыкладу, з чатырох тысяч загінуўшых, знойдзеных у час першай Усесаюзнай вахты Памяці для Мяснога Бору пад Ноўгарадам, медальёны былі толькі ў ста. Таму архівы — сапраўдны скарб. Але для таго, каб разабрацца ў іх, трэба большы навык, чым пры палявых работах. І тут мы хацелі б атрымаць дапамогу работнікаў архіваў. Прыйшоў час «рассакрэціць» у рэшце рэшт франтавыя карты, на якіх дакладна можна знайсці лініі абароны, месцы невядомых пахаванняў.

Зараз збіраемся даследаваць пераправы 1941 года на Нёмане і Бярэзіне. Вялікая праца будзе праведзена ў Налібоцкай пушчы. Мы спадзяёмся знайсці месца выхаду з акружэння рэшткаў 3-й, 4-й, 10-й і 13-й армій. Там жа групы нашых аквалангістаў будуць праводзіць пошукі затануўшай і затопленай ваеннай тэхнікі. У наваколлях Мінска будуць даследавацца абарончыя рубяжы 161-й, 64-й, 108-й і 100-й стралковых дывізій. Гэта задача асабліва важная, бо большасць часцей, што змагаліся пад Мінскам, складалася з жыхароў горада. Насельніцтва сталіцы было мабілізавана 15 гарадскімі ваенкаматамі, а 100-я стралковая дывізія даўкамплектавалася ва Уруччы, і толькі 161-я Кавалерыйская дывізія фарміравалася ў Туле.

Галоўнае сёння — зрабіць дакладныя схемы, чарцяжы, паметкі на картах, пакуль жывыя яшчэ ўдзельнікі вайны. Яны дапамогуць скарэкціраваць нашу работу, удакладніць звесткі, выправіць недакладнасці. А тое, што мы не паспеем зрабіць, зробяць наступныя пакаленні. Трэба паклапаціцца не толькі пра забытыя салдацкія пахаванні, але і пра вядомыя брацкія могілкі. Напрыклад — могілкі загінуўшых у шматлікіх фашысцкіх канцлагерах ваеннапалонных. На абеліску ў Масюкоўшчыне ёсць заклік: «Схіліце галовы перад тымі, хто не стаў на калені перад ворагам». А пра тых, хто быў замучаны ў «Шталагу № 352», непадалёк, пачалі гаварыць толькі нядаўна.

Усе, хто можа дапамагчы нам маральна і матэрыяльна, хто мае нейкую інфармацыю — хай звяртаюцца да нас на адрас: 220831, Мінск, вул. Мічурына, 19, кв. 147, пошукавае аб'яднанне «Белая Русь».

**Запісаў Мікола БАГАДЗЯЖ.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ— 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**







Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12